
Ніна Абрамюк→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Простая мова→5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 42 (3310) Год LXIV   Беласток, 20 кастрычніка 2019 г.   Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Вяртацца на Беласточчыну вельмі прыемна

Размова з генеральным дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску **Паўлам Латушкам**, які раней быў міністрам культуры Рэспублікі Беларусь, амбасадарам Беларусі ў Польшчы і Францыі.



**— Учора Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказаў у Беластоку ў рамках тэатральнага фестывалю «Напрамак Усход» п'есу Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта».**

— Калі хто не змог наведаць учора спектакля ў Беластоку, я шчыра запрашаю на гэты спектакль у Мінск. Вы атрымаеце выключную асалоду ад тэатральнага мастацтва, ад таго, што можа зрабіць такі праслаўлены калектыў, які працуе ў Купалаўскім тэатры. У гэтым годзе мы пачалі святкаванне сотага тэатральнага сезона. У наступным годзе будзе самая галоўная ўрачыстасць. У рэпертуары Купалаўскага тэатра — беларуская класіка, сучасная драматургія, класіка сусветная, замежная сучасная драматургія. Кожны на свой густ мае магчымасць у нас пазнаёміцца з тэатральным мастацтвам. Мы заахвочваем больш наведваць тэатр. Для мяне асабіста тэатр гэта тое месца, дзе, атрымліваючы інфармацыю, маем магчымасць сутыкнуцца з мастацтвам, праводзіць свае аналізы і рабіць уласныя высновы. Спыталі мяне, як вы можаце пракаментаваць чорны квадрат Малевіча. Белы фон, чорны квадрат і што тут гаварыць. Аднак да гэтай пары людзі наконт яго дыскутуюць і дыскутуюць, што ж меў на ўвазе Малевіч. Тут схаваная таямніца таго, што ён хацеў, каб пра яго гаварылі, дыскутавалі і аналізавалі. Мы не чорны квадрат на белым, але яскравы, разнастайны і вельмі цікавы тэатр варты таго, каб яго наведаць.

**— Вы сёння разам з генеральным консулам Беларусі ў Беластоку Алай Фёдаравай, рэжысёрам п'есы, мастацкім кіраўніком Мікалаем Пінігіным і акцёрамі Купалаўскага тэатра рашыліся наведаць Бельскі белліцэй.**

— Прапанова для мастацкага кіраўніка Купалаўскага тэатра сустрэцца з моладдзю Бельскага белліцэя гэта быў мой першы крок. Мы памятаем таксама пра Гайнаўскі белліцэй, але ведаем, што ён цяпер адзначаў сямідзесяцігоддзе дзейнасці і я шчыра віншую ўсіх выкладчыкаў і вучняў Гайнаўскага белліцэя. Мне было вельмі важна, каб нашы артысты, дзеячы мастацтва, культуры наведалі асяроддзе беларусаў, якія тут пражываюць. Каб пазнаёміліся з асяроддзем беларусаў Беласточчыны і зразумелі важнасць падтрымкі з боку нашай культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Гэта таксама падтрымка маладога пакалення беларусаў, якія тут пражываюць, паказанне важнасці беларускай культуры і беларускага слова праз тэатр. Можа гэта прыцягне больш маладых да тэатральнага мастацтва ўвогуле. Калі мы кажам пра важнасць адукацыі праз культуру, тэатральная адукацыя з'яўляецца самым эфектыўным інструментам фарміравання адукаванай асобы. Гэта была мэта нашай сустрэчы ў Бельскім белліцэі. Гэта можа маленькі прыклад большага разумення і ўзаемнага пазнавання і падтрымкі з нашага боку. Калі будуць прапановы з боку пражываючых тут беларусаў, то і мы будзем ініцыяваць. Хаця наш тэатр знаходзіцца ў Мінску і займаецца тэатральным мастацтвам у Беларусі, то падчас нашых замежных гастроляў у Польшчы мы рады бачыць беларусаў, якія тут пражываюць, на нашых спектаклях.

**— Ці плануеце наладзіць больш шырокае супрацоўніцтва вашага тэатра з Драматычным тэатрам імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, дзе ўчора выступалі, ці з іншымі тэатральнымі ўстановамі ў Польшчы?**

— Мы плануем, што Купалаўскі тэатр будзе яшчэ прыязджаць у Польшчу. Спадзяемся на супрацоўніцтва з Тэатрам Вянгеркі, а таксама з Люблінскім тэатрам, які быў пабудаваны Каралем Казлоўскім, польскім архітэктарам, які з'яўляецца аўтарам архітэктурнага праекта Купалаўскага тэатра ў Мінску. Мы плануем паехаць у варшаўскія тэатры — Драматычны, Польскі і Нацыянальны. Гэта, канешне, пакуль нашы планы.

**— Вы доўга былі амбасадарам Беларусі ў Польшчы і Францыі, а ў перапынку ў дыпламатычнай місіі былі міністрам культуры Рэспублікі Беларусь.**

— Гэтыя два фактары сумежныя і аб'яднаныя ў адным. Як дыпламат я займаўся культурнай дыпламатыяй. Гэта спрыяла добраму іміджу нашай дзяржавы і іншых краін свету. Ёсць адна з буйнейшых міжнародных арганізацый свету ЮНЕСКА (як амбасадар Рэспублікі Беларусь у Францыі Павел Латушка быў таксама пастаянным прадстаўніком Беларусі пры ЮНЕСКА — А. М.), якая займаецца пытаннямі культурнай палітыкі. Дыпламатычная работа ў маёй працы шмат у чым была звязана з культурнай дыпламатыяй, прысоўваннем інфармацыі і ведаў пра нашу краіну. Давалі мы магчымасць пазнаёміцца з гісторыяй нашай культуры, з нашай спадчынай, з лепшымі ўзорамі сучаснай беларускай культуры. Гэта дае больш ведаў пра Беларусь і пашырае супрацоўніцтва ў палітычнай, эканамічнай і навуковай сферах.

**— Шмат гадоў Вы былі амбасадарам Рэспублікі Беларусь у Польшчы, але раней пачыналі дыпламатычную працу ў Генеральным Консульстве Рэспублікі Беларусь у Беластоку. Якія засталіся ўспаміны?**

— Канешне, вяртацца на Беласточчыну вельмі прыемна, бо тут калісьці я пачынаў сваю прафесійную дзейнасць, дзе была першая мая камандзіроўка за мяжой у якасці беларускага дыпламата. Тут я пазнаёміўся з выключным асяроддзем беларусаў, якія тут пражываюць. Пазнаёміўся, як тут захоўваецца беларуская культура, беларускае слова, як існуе беларуская адукацыя.

**— Як было з прамоцыяй беларускай культуры ў Францыі?**

— За гады, калі я быў паслом Рэспублікі Беларусь у Францыі, мы арганізавалі многа разнастайных мерапрыемстваў. Штогод, калі мне прыходзілася таксама адказваць за працу ў Іспаніі, Партугаліі і Манака, Беларускае пасольства ў Францыі праводзіла каля сарака-пяцідзесяці разнастайных культурных акцый. Сотні тысяч французаў і грамадзян згаданых мною краін наведвалі беларускія культурныя падзеі. Напрыклад, мы прывезлі на разнастайныя выставы ў Францыі больш за сто сучасных беларускіх мастакоў. Мы арганізавалі гастролі калектыву «Песняры». У Парыжы і ў іншых гарадах Францыі тэатральнае мастацтва нашай краіны прадстаўлялі Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, Вялікі тэатр оперы і балета, Тэатр студыі кінаакцёра і Балетная школа «Віжнавец». Зразумела, былі таксама выставы, прысвечаныя помнікам гісторыі культуры нашай краіны. Буйнейшы праект гэта выстава «Лісабон праз Мінск да Уладзівастока», якая пазней атрымала ўжо назву «Лісабон праз Мінск і Маскву да Уладзівастока». Гэты праект рэалізаваўся ў Лісабоне, Маскве, Астане і ў іншых гарадах. Прымалі ў ім удзел трыццаць краін, а гэта была ініцыятыва Пасольства Беларусі ў Францыі, пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Беларусі. Так што праектаў было шмат і ўсе яны фарміравалі добры, станоўчы імідж Беларусі. Моладзь была нашым прыярытэтам. Шмат выступала ў Францыі нашых мастакоў, музыкантаў, дзеячаў мастацтва маладога пакалення — студэнцкі хор і студэнцкі сімфанічны аркестр Акадэміі музыкі. Мы паказвалі класіку, прысвечаную Янку Купалу, Максіму Багдановічу, прэзентавалі перакладзеныя на іспанскую мову вершы Максіма Багдановіча. Усе гэтыя праекты — гэта погляд у будучыню. Усё гэта спрыяла добрым суадносінам паміж Беларуссю і Францыяй, Іспаніяй, Партугаліяй і Манака.

**— Ці заглядаеце на сайты «Нівы» і Радыё Рацыя?**

— Калі працаваў міністрам культуры, атрымліваў з рэдакцыі «Нівы» ўсе выданні. Мне было вельмі цікава знаёміцца з вашай газетай. Апошнім часам такой магчымасці ў мяне няма, але вы слушна сказалі, што трэба больш і часцей бываць у інтэрнэце і там чытаць і знаёміцца з вашымі матэрыяламі.

**— Планы на далейшую будучыню ў Вас больш спалучаныя з культурай, ці дыпламатыяй?**

— Гэта не ад мяне залежыць, але я спадзяюся, што мая дыпламатычная праца не завершана, як бывала і раней. Пасля працы дыпламатам у Польшчы, я працаваў у сферы культуры. Я зараз працую з купалаўцамі і вельмі гэтым ганаруся, бо гэта выключна важная культурная ўстанова ў нашай краіне. Веды і новыя інфармацыі вельмі важныя для мяне. Я спадзяюся, што цяпер змагу штосьці добрае зрабіць для беларускай культуры, для беларускага тэатра.

**— Дзякую за размову і жадаю поспехаў.**

Гутарыў **Аляксей МАРОЗ**





# Не ваша справа!

Больш нікога не агітую! Я зараз пра мову. Скажу толькі наступнае. Сабакі ва ўсім свеце брэшуць аднолькава. Гаў, ды гаў! І ў Аўстраліі гаў-гаў, і ў Еўропе, і ў Амерыцы… Нават у Азіі, дзе іх у некаторых краінах ядуць, і там толькі гаў ды гаў. Я ўжо не кажу пра Афрыку. Там таксама гаў… Па-іншаму не ўмеюць. І не саромеюцца. А чаго ім саромецца, сабакам?!

А людзі гавораць па-рознаму. Усюды па-рознаму. Кожны народ на сваёй мове. Бывае, некалькі моў ведаюць, але між сабой дык па-свойму. Цяплей, неяк, па-свойму. Ды і сорамна, як сваёй мовы не ведае чалавек! Не сабака ж! Людзі часамі саромеюцца…

Вось і ўсё. Выбар кожны робіць сам — бліжэй да сабак яго сорам, ці ўсё ж да людзей…

Ёсць, праўда, і яшчэ адзін варыянт на выбар. Трэці. Ну і сапраўды, нельга ж у такім важным пытанні абмяжоўвацца толькі двума. Або так, або так! Або чалавечы сорам, або сабачы! І чаму, як не чалавек, дык адразу ўжо сабака?! Не! Ёсць ён, трэці варыянт! Гэта варыянт гадзюкі. У яе два языкі. Ну а ў каго два языкі, у таго аніводнай мовы. Зрэшты, гадзюкам мова і непатрэбная ўвогуле. Даказана, што яны глухія. Ім што ні гавары — як аб сцяну гарохам. Ні халеры не чуюць, затое маюць два языкі. Ну ці адзін, але раздвоены. Можа гэта і не самая лепшая аналогія з двухмоўем, але ж з чым яшчэ праводзіць аналогіі, як не з прыродай?!

Я то пра мову шмат пісаў і аналогій багата прыводзіў. Думаў, ужо больш не буду, як зразумеў, што беларуская мова — гэта мая асабістая і майго народу каштоўнасць. А як у вас ёсць што каштоўнае, вы ж не сунеце гэта іншым. Прыкладам, знайшлі скарб! Золата там! І ўсё! Яно ваша! Нікому вы яго не пхнеце, бо гэта рэч каштоўная.

Так і з мовай. Я шчаслівы, што валодаю ёй. Гэта ж вялікая каштоўнасць. Ну хто будзе адмаўляцца ад каштоўнасці?! І не толькі мая, дарэчы, але і народная. Вось і атрымліваецца, хто ёй валодае, той і наш народ. Ну а хто не, то на „не”, і суда няма.

Ну, вось зноў зараз прыйшлося падняць тэму мовы. Гэта з перапісам звязана, відома ж. Ну, ужо ўсе напісалі пра мову ў сувязі з перапісам. Толькі гультай не напісаў. Я цярпеў-цярпеў, і вось пішу таксама. Ну, уяўляеце сабе, у Беларусі, у беларусаў, будуць пытаць па-руску, якая для беларусаў родная мова. І не проста пытаць, а падказваць, як на гэтае пытанне адказаць. Бо там, пад пытаннем, расшыфроўка такая, па падказцы якой трэба ўспомніць тую мову, на якой размаўляў у раннім дзяцінстве. У наскольку раннім, не канкрэтызуецца. Можа як гаварыць не ўмелі?! Але і гэтага ім мала. Яны яшчэ пытаюцца, на якой мове мы гаворым у хаце. Поўны набор пытанняў. Аднаго толькі не хапае, на якой мове ў нас у хатах гавораць тэлевізар? І як гэта яны не дадумаліся спытаць гэтага?! А раптам у каго тэлевізар гаворыць па-беларуску! Вось і адсачылі б моўнага агрэсара.

У мяне ў жыцці часта пыталі, чаму я гавару па-беларуску. І ў гасцях пыталі, і ў краме, і нават у бібліятэцы. І хто б вы думалі? Правільна, сама бібліятэкарка спытала. Аніяк не магла зразумець, чаму беларус у Беларусі гаворыць па-беларуску. А бывала і некаторыя журналісты пыталіся, беларускія, і нават некаторыя беларускія палітыкі. І да тых, бывала, не даходзіла. Я па маладосці чаго толькі ім не тлумачыў! Якіх толькі аргументаў не прыводзіў! Не да ўсіх дайшло. А потым, неяк, сам стаў пытацца ў тых, хто пытаўся ў мяне, чаму я гавару па-беларуску:

— А чаму вы па-беларуску не гаворыце?

І ў людзей адразу вочы расчыняюцца, і хіба што і мазгі таксама, бо адразу пачынаюць разумець недарэчнасць свайго пытання і натуральную прыроду майго. Вось і ў гэтым перапісе пытання, на якой мове мы размаўляем, быць не павінна. Яно абразлівае! Павінна быць такое пытанне: „Калі вы не размаўляеце па-беларуску, то скажыце чаму?”.

Вось якія пытанні павінны цікавіць беларускую дзяржаву. Аднак калі пытанні ў перапісе задае яна, то яе мусяць хваляваць прычыны нейкіх праблем, каб можна было іх хутчэй вырашыць. У адваротным выпадку пытанні задае не беларуская дзяржава. Таму на такое: „На каком языке вы разговариваете дома”, адкажу так:

— Не ваша справа! На якой мове хачу, на такой і гавару!

Віктар САЗОНАЎ



# Бывай, да заўтра

Па-чалавечы, не дзіўна, што палякі абралі працяцкае «сёння», а не паветранае «заўтра»; ПіС, а не яго палітычных праціўнікаў. *Jutro to futro*, а паслязаўтра, — як гаворыцца, — ужо па той футры. У той час як сёння гэта сёння — матэрыяльнае, канкрэтнае, рэальнае. Яно пульсуе ў вашых руках, вы можаце яго адчуць, і перш за ўсё можаце ўкусіць, не асцерагаючыся, што рэшты не хопіць да вечара. Толькі што будзе заўтра? Хто-небудзь думае пра гэта? Капітальная думка Славаміра Мрожака, паводле якой сёння гэта заўтра, толькі што сёння, што па сутнасці азначае, што ілюзіі — наша штодзённая патрэба, тлумачыць тут шмат. Мы аддаем перавагу парадоксу над логікай, недарэчнасці над рэчаіснасцю. Абы не было лёгка.

Чалавечая прырода бясспрэчна недасканалая, таму ўсё, што прадстаўляе людзей інстытуцыйна, ад улады, праз царкву, да самых прыгожых ідэй, нясе ў сабе недасканаласць. Гэта нельга ігнараваць нават у футурыстычных разліках пра паляпшэнне віду чалавека. Як сцвярджае Эпедокл, філасоф і эстэт, які жыў у пятым стагоддзі нашай эры, ідэальнае само па сабе не можа быць дасканалым, бо можа быць дасканалым толькі тое, да чаго можна імкнуцца. Праўду сказала Агнешка Асецкая: «Справа не ў тым, каб дагнаць трусіка, але даганяць яго». Нашы недахопы паскудныя і будуць заставацца такімі. Яны перакладваюцца, хочам мы гэтага, ці не, на недахопы ўлады. А тыя на апазіцыю, якая выступае супраць яе дзеянняў, у рэшце рэшт, імкнецца ўзяць уладу… ад цяперашняй улады. Кожная ідэалогія, светапогляд ці партыя, якія атаясамлівае сябе з імі, трымае за пазухай якісь пернік. Але і палкі не адпускае. Палка толькі палка, але яна мае два канцы. З аднаго боку, трэба да яе прыкласціся, каб другім улупіць. Гэта закон фізікі. Усё роўна, хто трымае канец палкі. У канчатковым выніку перамагае той, хто мае больш сілы; па спіне атрымлівае той, хто мае яе менш. Падчас выбарчага рынку было паказана, што ПіС валодае большай сілай. Прынамсі, сёння, таму што паставіла на „сёння”. Акрамя ўсіх ахвяраванняў пад назвай „плюс”, пад ягоным кіраваннем, канкрэтна ў 2018 годзе, сярэдні паляк з'еў на 6 кілаграмаў цукру і 23 яйкі больш, чым годам раней. Гэта аўтарытэтныя даныя Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення. Спажыванне свініны і птушкі падобнае — летась кожны статыстычны паляк з'еў каля 77 кілаграмаў мяса, гэта значыць амаль на 7 кіло больш, чым годам раней. У тым жа 2018 годзе быў устаноўлены значны рэкорд спажывання піва — яго пралілося цэлых 100 літраў на статыстычную галаву паляка. І што яму трэба больш? З іншага боку, усе „дазаўтрашнія” абяцанні апазіцыі — цукровая вата, якая, як вядома, займае шмат месца, спакушае водарам, але на самой справе гэта туманная абалонка, выпечаная з кавалачка цукру. Такая колькасць падсалоды нікому не асалодзіць ужыккага жыцця. Тое, што палякі абралі „сёння”, на свой спосаб разумнае, таму што прадказальнае ў дастатковасці. Сёння поўныя калдуны, а заўтра? Заўтра для многіх палякаў гэта сёння. Толькі што назад гэта не спрацоўвае.

Але, каб не казаць, што палякі ставяцца да ўсяго бездакзана, трэба зразумець прычыны іх „сённяшніх” выбараў. На мой погляд, яны маюць двайны характар. Па-першае, гэта пытанне неразумення ўладамі асноўных паняццяў, якія выцякаюць з фізікі. Я маю на ўвазе вагу і масу. Нагадаю, што ў фізічным плане маса — гэта колькасць матэрыі, якая будуе аб'ект. Ці дакладней, сума мас усіх атамаў, якія, напрыклад, складаюць агульную масу ўсіх палякаў. Гэта агульная вага — гэта мера сілы гравітацыі, якая прыцягвае яе нязменную масу як бы „ўніз” з пастаяннай хуткасцю. На Месяцы пры нязменнай масе кілаграм паляка будзе меншы, чым на Зямлі. Здаецца, цяперашняя ўлада памылкова прыраўноўвае масу да вагі. Верагодна, адсюль паходзяць яе „месячныя” сацыяльныя праекты і „бясклапотнае” размеркаванне маёмасці ўсіх палякаў. Нават тых, хто яшчэ не нарадзіўся. Што яны скажуць на гэта… заўтра?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Выбарчыя гонкі

Выбары, выбары і па выбарах. Нагадаю толькі, што знаходзімся мы ў сярэдзіне выбарчага польскага марафону. Дваццаць шостага мая 2019 года мы наглядалі за змаганнем у Еўрапарламент, зараз трынаццатага кастрычніка 2019 сачылі за выбарамі ў польскі Сейм, а праз год чакаюць усіх прэзідэнцкія гонкі. Адным словам, барацьба ў катэгорыях самых цяжкіх палітычных катэгорыях.

Каб не звар'яцець ад палітычнай нагрузкі і паслявыбарчых каментарыяў, адразу па абвяшчэнні пасля 21 гадзіны першых вынікаў апытанняў грамадства, я спакойна пераключыў інфармацыйны канал на матч Польшча — Македонія і глядзеў аванс Польшчы на чарговы чэмпіянат Еўропы. Вядома, вынік 2:0 быў ужо нязменным у адрозненне ад выніку палітычных спаборніцтваў. Таму пасля матча спакойна пайшоў я спаць, каб з раніцы і цягам дня прыглядацца як мяняюцца рэзультаты галасавання ў маштабе ваяводства і краіны. Проста метад пераліку галасоў прымушае нас чакаць вынікаў да апошняй хвіліны, калі Дзяржаўная выбарчая камісія афіцыйна апублікуе колькасць галасоў аддадзеных на паасобныя камітэты і падзел пасольскіх мандатаў у кожнай выбарчай акрузе. Аднак, чакаючы вынікаў, можна ўжо зрабіць пэўныя высновы. Па-першае, выбары выйгралі перш за ўсё грамадзяне Польшчы, якія пайшлі ў такой колькасці галасаваць. Выбарчая яўка 61,1% з'яўляецца самай высокай з 1989 года. Ужо перад выбарамі было відаць, што людзі хочуць галасаваць. Як праінфармаваў старшыня Дзяржаўнай выбарчай камісіі суддзя Веслаў Казялевіч, у маштабе ўсёй краіны быў 30 111 281 выбаршчык. На спіскі выбаршчыкаў, якія захацелі галасаваць па-за сваім месцам жыхарства, запісалася звыш 242 тысячы чалавек. У выбарах у Сейм (460 пасло), стартавала 5112 кандыдатаў сярод іх 2152 складалі жанчыны, а ў Сенат (100 сенатараў) — 278 ахвотных, у тым ліку 45 жанчын. З цікавінак можна даведацца, што найстарэйшы кандыдат у Сейм меў 92 гады, наймалодшы — 21. Адпаведна ў Сенат найстарэйшым быў 81-гадовы кандыдат, а наймалодшаму было 32 гады.

Тое, што выбары прыцягнулі ўвагу і патрэбу грамадзянскай актыўнасці палякаў, вельмі добра сведчаць даныя наконт ахвотных галасаваць па-за межамі Польшчы. Як паказвалі медыя, у дзень выбараў перад польскімі консульскімі пунктамі да галасавання стаялі аграмадныя чэргі. Хопіць глянуць на рэгістрацыйныя даныя. У ЗША запісалася галасаваць амаль 30 тысяч польскіх грамадзян, у Нямеччыне — звыш 50 тыс., у Вялікабрытаніі — амаль 100 тыс. Такім чынам змаганне за кшталт польскага парламента набыло сусветны маштаб.

Але давайце памаленьку падыходзіць да развязкі галоўнай сутнасці выбараў. Таму чакаючы да апошняга моманту, перадаем тыя вынікі, якія былі даступнымі ў панядзелкавы паслябедзенны час. Як стала ўсім вядома, перамагло Права і справядлівасць, атрымліваючы 43,76 адсоткаў, звыш 8 мільёнаў галасоў. Грамадзянская кааліцыя — 27,24 адсоткаў, Саюз левых дэмакратаў — 12,52 адсоткаў, Польская сялянская партыя і «Кукіз-15» — 8,58 адсоткаў і Канфедэрацыя — 6,79 адсоткаў. Выбары ў Сенат Права і справядлівасць выгравае ў адсотках, але рэальна ўсе другія кандыдаты маюць статыстычную большасць. Значыць палітычнае змаганне рэальна набярэ больш канфліктны характар. Зразумела, нас перш за ўсё цікавяць вынікі ў Падляшскім ваяводстве. Вядома, што тры сенатары з рэгіёна гэта стаўленікі кіруючай дзяржавай Права і справядлівасці. Марк Камароўскі, Марыюш Громка, Яцэк Багуцкі. Гэты апошні перамог Ігара Лукашука, дырэктара Гайнаўскага беларускага ліцэя, як адзінага стаўленіка усёй апазіцыі. Пераможца атрымаў 48 257 тысяч галасоў, а прайграны 32 059 тысяч галасоў. У выбарах у Сейм, перамагае Права і Справядлівасць атрымоўваючы 52,04%, 270 тыс. 888 галасоў, Грамадзянская кааліцыя 21,04%, 109тыс. 527 галасоў, ПСЛ 9,33%, 48тыс. 566 галасоў, СЛД 9,09%, 47тыс.342 галасы, Канфедэрацыя 6,95%, 36тыс. 207 галасоў. З чатырнаццаці паслоў ад нашае акругі шанец мае незатаплівы Яўген Чыквін, які з вынікам 14 083 галасоў апынуўся на трэцім месцы са спіска Грамадзянскай платформы. Праз тыдзень напішам больш дакладна пра выйграных і прайграных гэтай бітвы.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Праца настаўніка мяне не стамляе

**Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Настаўніцай беларускай мовы па поўнай праграме я стала тады, калі ўжо пачала працаваць у Нарве. Калі працавала ў Ласінцы, то ў асноўным працавала настаўніцай пачатковага навучання. Таксама вяла заняткі па біялогіі, хіміі, беларускай мове ў некаторых класах. У Ласінцы я ўжо рыхтавала сваіх вучняў да розных конкурсаў, ладзіла беларускія мерапрыемствы і пачала супрацоўніцтва з настаўнікамі і дзеткамі з Мінска. Яны прыязджалі да нас, а мы да іх.

**Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Вельмі цёпла ўспамінаю свайго настаўніка, які вучыў мяне ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, спадара Васіля Сакоўскага. Ён быў спакойным, з пачуццём гумару, чалавекам. Навучаў нас цаніць, любіць сваё роднае, не саромецца беларускай мовы.

**Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Ці можна працаваць у школе без супрацоўніцтва з настаўнікамі іншых школ? Гавару — не. Я супрацоўнічала з многімі: Вольгай Сянкевіч, Нінай Куптэль, Тамарай Бялькевіч, Іаннай Марко, Валянцінай Базылюк, Верай Флярчук, Юлітай Сушч, Алінай Ваўранюк, Іалантай Грыгарук, Міраславай Ніканчук, Галенай Добаш. Многія мае сябры ўжо на пенсіі.


Ніна АБРАМЮК з унукам Міколам

Фота Аляксандра Вярбіцкага

**Ніна АБРАМЮК** нарадзілася ў вёсцы Навіны, што ў Нарваўскай гміне. Бацькі Надзея і Мікола Ялінікі працавалі на гаспадарцы. У 1977 годзе, адразу пасля ліцэя, стала працаваць у Пачатковай школе ў Ласінцы. Пасля паступіла ў Варшаўскі ўніверсітэт, дзе закончыла факультэт беларускай філалогіі ды педагогіку па спецыяльнасці пачатковае навучанне. У 1995-2018 гадах працавала настаўніцай беларускай мовы ў Нарве. Зараз на пенсіі, аднак з верасня вядзе тэатральныя заняткі ў Непублічнай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Жыве ў Тыневічах-Вялікіх.

**Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Беларускае аб'яднанне АБ-БА, БГКТ, Рэдакцыя «Нівы», Нарваўскі цэнтр культуры, Бібліятэка ў Нарве, Кааператыўны банк у Нарве.

**Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Вяла праект «Звычаі і абрады» (2000 г.), «Са спадчынай у будучыню» (2003-2004 гг.), «Куфар поўны таямніц» (2011 г.), «Захаваць у памяці» (да 2018 г.)

**Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Тут трэба сказаць не адзін, а некалькі: Конкурс тэатральных калектываў, Беларуская гавэнда, Абрад на сцэне.

**Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Я заўсёды супрацоўнічала з бацькамі і магла разлічваць на іх дапамогу. Яны былі сур'ёзнымі настаўнікамі для мяне, назіралі маю педагагічную працу, ацэньвалі мяне, бачылі поспехі ў сваіх дзетак, дзетак сяброў і знаёмых. Ніколі не адмаўлялі мне дапамогі. Часам самі выходзілі з прапановамі.

**Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Калі на прынцыпе добраахвотнасці вучні прыходзяць на заняткі, калі бацькі заяўляюць, што іх дзеці будуць хадзіць на ўрокі, для мяне гэта козыр. Хачу сказаць, што на ўрокі прыходзяць вучні розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. І яны ўдзельнічаюць у многіх конкурсах і мерапрыемствах. І заваёўвалі высокія месцы.

**Ці можаце зрабіць усё за 3 гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Калі трэба падрыхтаваць добра вучняў да шматлікіх конкурсаў, то за 3 гадзіны ў тыдзень не здолею зрабіць. А калі тое, што ахоплівае «Podstawę programową", мне якраз хапае. Вядома, што да кожнага вучня трэба падыходзіць індывідуальна.

**Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У мяне было шмат лаўрэатаў прадметнага конкурсу. Пачынаючы з 1994/1995 па 2018 год у мяне назбіралася 33 лаўрэаты і 6 фіналістаў.

**Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Трэба сказаць, што не ўсё, што знаходзіцца ў падручніках, дапасаванае да сучаснасці. Настаўнік падбірае такія творы, праблемы, якія павінны быць зрэалізаваныя згодна з «праграмнай асновай». На ўроках карыстаюся рознымі крыніцамі, сам падручнік гэта не ўсё.

**Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

«Лемантар», «Кругагод», «Са спадчынай у будучыню»

**Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Іх шмат, цяжка назваць аднаго.

**Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Чытаю «Поўню» Міхася Андрасюка.

**Ці прыўваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Ну, пэўна. Цікавіць мяне штодзённае жыццё беларусаў у Польшчы, дзейнасць беларускіх арганізацый, што дзеецца ў Беларусі. Люблю чытаць старонку для дзяцей, дзе "Зорка" распавядае пра справы школьнікаў.

**Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Многа такіх беларускіх мерапрыемстваў. Кожнае з іх мае нешта цікавае, арыгінальнае, нешта, што ўводзіць у свет дзяцінства і маладосці, прыцягвае гледачоў і сімпатыкаў.

**Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Вядома. З некаторымі размаўляю выключна па-беларуску або па-свойму.

**Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Здаралася. Некаторыя мелі да мяне заўвагі. Але пасля аказалася, што гэта не мела нічога супольнага з іх дзяцьмі. Яны паблыталі настаўнікаў. Заняткі вёў зусім іншы настаўнік, не я. Прасілі пасля прабачэння ў мяне.

**Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Праца настаўніка мяне не стамляе.

**Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— А ёсць! Працуюць журналістамі, рэдактарамі ў прэсе — у тыднёвіку «Ніва» і на Радыё Беласток. Гэта Ганна Кандрацюк-Свярубская і Анна Пятроўская. Іншыя, як Кася Сянкевіч, пішуць паэзію і займаюцца мастацтвам, ёсць лекары, юрысты і г.д.

**Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— На працягу сваёй педагагічнай працы я амаль кожны год атрымлівала ўзнагароду дырэктара школы за дыдактычную і выхаваўчую працу. Мела ўзнагароду куратара асветы, войта Нарваўскай гміны, узнагароду Упраўлення народнай адукацыі Гродзенскага аблвыканкама, узнагароду ўдзельніка на лепшую працу настаўніка беларускай мовы, атрымала Ганаровую грамату за III месца ў конкурсе «Нівы» і Беларускага саюза «Наш клас, наш гонар». Атрымала сярэбраную адзнаку «Заслужаны Беласточчыне» ад Беластоцкага ваяводы, была ўзнагароджана прэзідэнтам РП залатым медалём за шматгадовую працу. Атрымала грамату Міністэрства адукацыі РБ за актыўную дзейнасць па захаванні беларускай культуры, папулярызацыі беларускай мовы за мяжой, умацаванні добрасуседскіх адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Польшчай. А колькі віншавальных лістоў ад войта Нарваўскай гміны, ад БГКТ, Гміннага самакіравання, дырэктара Нарваўскага цэнтра культуры! Атрымала ўзнагароду ад Аб'яднання «Наша школа», Ад дырэкцыі ПШ № 5 у Беластоку, ад Праваслаўнай Беластоцка-Гданьскай епархіі. Ці ўсё пералічыш? Гэта ўсё за выдатныя вынікі ў дыдактычнай працы, за тое што мае вучні атрымлівалі званні лаўрэатаў у прадметных, дэкламатарскіх, тэатральных і мастацкіх конкурсах.

**Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Калі бачу заангажаванасць маіх вучняў, бацькоў, добразычлівасць дырэкцыі, настаўнікаў, калі ёсць вынікі і поспехі.

**Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Заўсёды, калі мы прыязджалі на тэатральны агляд, сярод удзельнікаў падносіўся стрэс. «О! Нарва прыехала — гаварылі, — не будзе лёгка выйграць!» Памятаю, як толькі пачала працу ў Ласінцы, дык у школу завітала інспектар асветы — пані Антаніна Грыгарчук. Я не рыхтавалася, бо працавала ўсяго некалькіх тыдняў. У школе меркавалі, што інспектар будзе візітаваць урокі Марыі Колнер. Але ж яна вырашыла прыйсці на мае ўрокі. Я спалохалася, бо толькі што закончыла ліцэй, мела цьмянае ўяўленне пра метады і формы працы. Ну але ж павяла ўрок. А пасля гэтага візітатар сказала: «To była piękna lekcja. Niech pani nigdy nie zdradzi nauczania początkującego». Пасля я даведалася, што ўсе настаўнікі дрыжэлі на прозвішча візітатар Антаніны Грыгарчук.

**Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Герб, сцяг, насценная газета з партрэтамі беларускіх пісьменнікаў.

**Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Нягледзячы, што нас ахінае паўсюдная паланізацыя, ёсць моладзь, якая хоча быць беларусамі. Я веру, што яны захаваюць нашу мову і тоеснасць.

## Вясковыя цэнтры для маладых і старэйшых

На Падляшшы ўзнікаюць Цэнтры вёсак. Для старэйшых дзейнічае ў іх „залатая ручка", а для маладзейшых — моладзевыя цэнтры. Цэнтры вёсак у Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета пашыраюць сваю дзейнасць і яшчэ збіраюць сродкі. Ацэнак чакаюць чарговыя заяўкі, пададзеная на конкурс у рамках Рэгіянальнай аператыўнай праграмы Падляшскага ваяводства.

Больш 507 тысяч злотых здабыў Гмінны цэнтр сацыяльнай апекі ў Міхалове на дзеянні, накіраваныя да пажылых людзей у рамках Вясковых цэнтраў. Сродкі паступаюць з фондаў мясцовай групы дзеяння „Кнышынская пушча".

Сельскія цэнтры пачалі дзейнічаць у чэрвені гэтага года. Інавацыйны праект прадугледжваў іх функцыянаванне ў шасці мясцовасцях Міхалоўскай гміны: у Ялоўцы, Шымках, Бандарах, Юшкавым Грудзе, Новай Волі, Геранімове і ў Саколі. У цэнтрах вёсак, акрамя культурнай прапановы, як для маладых, так і для старэйшых, найбольш патрабуючыя жыхары змогуць разлічваць на дапамогу г.зв. „залатых ручак" — дапамогу ў дробных рамонтах дома, пры інструктажах па эксплуатацыі абсталявання, пры дастаўцы лекаў, пакупках. У кожным з гэтых цэнтраў працуюць тры чалавекі: культурна-адукацыйны і сацыяльна-культурны інструктары ды гаспадарчы работнік.

Сродкі для фінансавання цэнтраў могуць паступаць з розных крыніц. У пачатку чэрвеня бургамістр Міхалова Марк Назарка падпісаў быў два кантракты з Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства на фінансавую дапамогу з бюджэту самакіравання Падляшскага ваяводства на дзейнасць сельскіх святліц у Ялоўцы, Бандарах, Юшкавым Грудзе, Новай Волі, Саколі і Пяньках. Субсідыя з Праграмы па аднаўленні вёскі Падляшскага ваяводства складае амаль 30 тысяч злотых.

Пры Гмінным цэнтры культуры быў створаны моладзевы цэнтр. Гэта месца, дзе ўдзельнікі будуць рыхтаваць прапановы па правядзенні культурных мерапрыемстваў, каб яны адпавядалі густам падлеткаў. Сярод іншага, гаворка ідзе пра актывізацыю вучняў, каб яны больш ахвотна ўдзельнічалі ў гарадскіх мерапрыемствах.

Дзейнасць абодвух цэнтраў фінансуецца з бюджэту Гміннага культурнага цэнтра, хаця ўлады гміны маюць намер старацца атрымаць фінансаванне для іх з Еўрасаюза.

Актыўна ўжо працуюць Вясковыя цэнтры ў Геранімове, Новай Волі і Бандарах, дзе інструктары з ГЦК у Міхалове праводзяць заняткі з дзецьмі і дарослымі. Дзеці сустракаюцца на занятках па музыцы і рытміцы, пажылыя людзі, пераважна жанчыны, хочуць паспрабаваць сябе на эстрадзе. У Бандарах жанчыны, якія наведваюць заняткі, хочуць стварыць калектыў.

— У Геранімове група ў асноўным засяроджана на падборы польскіх бяседных песень, у Бандарах — беларускіх, рускіх і ўкраінскіх, а заняткі настолькі інтэнсіўныя, што салістка з Бандароў выступіла на сцэне пасля двухтыднёвага ўдзелу ў занятках, — распавядаў Юрка Астапчук, інструктар з ГЦК.

Сума для здабыцця для ВЦ налічвае каля 1,6 мільёна злотых.

(лук)




# Скандынаўская хадзьба ў Гайнаўцы

Каля сямісот прыхільнікаў скандынаўскай хадзьбы (Nordic Walking) з Польшчы, Беларусі, Украіны і Іспаніі прынялі ўдзел у Х фінале Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе, які 14 верасня быў арганізаваны Польскай федэрацыяй «Nordic Walking», Гайнаўскім стараствам і Гайнаўскім надлясніцтвам на ўскраіне Гайнаўкі і Белавежскай пушчы. Фанаты скандынаўскай хадзьбы спаборнічалі на пушчанскіх сцяжынках. На лясную рас-




■ Андрэй Дзядзевіч з Гродна

ліннасць больш звярталі ўвагу хадуны, якія прынялі ўдзел у спаборніцтве дзеля адпачынку, а такіх асоб было многа. Аднак вялікая частка хадуноў змагалася за першынство ў паасобных этапах Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе. Белавежская пушча давала ім цень і магчымасць захаваць больш сіл, што было асабліва важным у час змагання на даўжэйшых дыстанцыях.

Фінал Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе быў урачыста адкрыты прадстаўнікамі арганізатараў у прысутнасці шматлікіх гасцей. Сабраных прывіталі староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка, дырэктар Рэгіянальнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў у Беластоку Анджэй Новак, надляснічы Надлясніцтва Гайнаўка Марыюш Агейчык і намеснік бургамістра Гайнаўкі Ірыней Раман Кендысь. Адзначылі яны, што фінал Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе на ўскраіне Белавежскай пушчы гэта прамоцыя Гайнаўшчыны на Польшчу і замежжа і прапагандаванне ідэі гэтага віду спорту і тым самым здаровага ладу жыцця.

— Мы рады, што ўжо чацвёрты раз фінал Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе ладзіцца ў Гайнаўцы. Прыгожасць Белавежскай пушчы і добрая арганізацыя мерапрыемства спрычыняюцца, што многа асоб рашаецца хадзіць з палкамі па пушчанскіх сцежках, — заявіў староста Андрэй Скепка.

Пасля адкрыцця мерапрыемства староста, намеснік бургамістра Гайнаўкі, прадстаўнікі Дзяржаўных лясоў, астатнія суарганізатары спартыўнага мерапрыемства, прадстаўнікі мундзірных службаў і іншыя госці прайшліся з палкамі па пачатковай частцы трасы. Вельмі важным была правільная размінка перад выхадам на ўсе дыстанцыі спаборніцтваў — 5, 10 і 21 кіламетр. Дзеткі радаваліся, што прайшлі 400 метраў. Найбольш хадуноў — каля двухсот асоб — выйшла на 5-кіламетровую дыстанцыю.

Два гады назад і раней пераможцам гайнаўскага фіналу і агульным пераможцам Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе на самай прэстыжнай дыстанцыі — паўмарафоне станавіўся хадун і заадно баскетбаліст з Гродна Андрэй Дзядзевіч. З сябрамі арганізаваў ён моцную каманду скандынаўскай хадзьбы ў Гродне і стаў арганізаваць спаборніцтвы за Кубак Беларусі таму не ўдзельнічаў у мінулагоднім фінале. У гэтым годзе прыняў удзел толькі ў заключным этапе Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе на дыстанцыі 21 км і зноў стаў пераможцам, апярэдзіўшы другога хадуна на некалькі мінут.

— Раней я быў частым удзельнікам спаборніцтваў за Кубак Польшчы па скандынаўскай хадзьбе. Перамагаў у паасобных яго этапах і станавіўся агульным пераможцам. Сёлета рашыўся прыехаць толькі на заключны этап у Гайнаўку, каб прайсціся па прыгожых сцяжынках Белавежскай пушчы і пазней спаткацца з даўнімі сябрамі. Надалей па-аматарску я займаюся ў баскетбольнай камандзе ў Гродне. Не трэніраваўся пад сённяшні фінал і гэта адчуў на трасе. Доўга ішоў на сваёй хуткасці, але пазней пачаў траціць сілы і на апошнім этапе трасы запаволіў. Ведаў, што дайду да мэты, але і ведаў, што трэба запаволіць. Дайшоў шчаслівы і яшчэ на некалькі мінут апярэдзіў саперніка, — стаў распавядаць Андрэй Дзядзевіч.

Так стомленага я раней яго не бачыў на мэце.

— У мінулым годзе ў фінале спаборніцтваў у Гайнаўцы прымала ўдзел мая жонка Наталля, — працягнуў расказ гродзенскі хадун. — У гэтым годзе на гайнаўскі фінал я прыехаў з жонкай і сябрамі з Гродна. Зараз мы праводзім спаборніцтва за Кубак Беларусі па скандынаўскай хадзьбе, фінал якога адбудзецца ў Мінску. Мы разбудоўваем асяродак скандынаўскай хадзьбы ў Гродне. Моцны асяродак скандынаўскай хадзьбы знаходзіцца ў Брэсце. Зацікаўленасць хадзьбой з палкамі расце ў многіх мясцовасцях Беларусі, а нашы хадуны дабіваюцца штораз лепшых вынікаў. Аднак мы перш за ўсё прамуем скандынаўскую хадзьбу ў якасці здаровага ладу жыцця. Калі мы ходзім з палкамі, працуюць мышцы не толькі ніжняй, але і верхняй часткі цела, прытым вельмі важны рух на свежым паветры. Выпростваецца пазваночнік і пасля даўжэйшай і рэгулярнай хадзьбы з палкамі некаторыя хваробы абмяжоўваюцца, а іншыя нават знікаюць. Тут яшчэ і прыгожая Белавежская пушча прыцягвае хадуноў да фінальнага этапу.

На фінал у Гайнаўку прыехалі таксама хадуны з Камянецкага і Пружанскага раёнаў.

— Я цешуся, што ў Гайнаўцы заняла першае месца і ў выніку атрымаецца ў мяне першае месца ў агульнай класіфікацыі спаборніцтваў па скандынаўскай хадзьбе на дыстанцыі 10 кіламетраў, — заявіла Малгажата Кубішын з Вулькі-Кравіцкай, пастаянная ўдзельніца агульнапольскіх спаборніцтваў. Была яна рада сустрэчы з Андрэем Дзядзевічам і яго жонкай Наталляй. Малгажата Кубішын стала таксама пераможцам сезона Кубка Еўропы па скандынаўскай хадзьбе ў катэгорыі жанчын на дыстанцыі 10 кіламетраў, а на генеральны падлік паўплывалі яе вынікі са спаборніцтваў у Германіі, Польшчы, Італіі і Аўстрыі.

Галоўны спецыяліст па справах рэгіянальнай палітыкі Аддзялення прамоцыі і развіцця Гайнаўскага старасты Люцына Ляўчук удакладніла, што ў гайнаўскім фінале Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе ўдзельнічалі вучні ўсіх школ Гайнаўкі.

— У Гайнаўцы пад наглядам працаўнікоў старасты была арганізаваная група хадуноў. Вучыліся яны правільнай хадзьбе з палкамі. Перш за ўсё дзеля актыўнага адпачынку і рэкрэацыі хадзілі яны па пушчанскіх сцежках. Сёння ўдзельнікі гэтай групы ідуць у фінальным спаборніцтве, — паінфармавала Люцына Ляўчук.

— Так, як штогод, у гайнаўскім фінале Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе прымаюць удзел вучні беларускага ліцэя. Нашы вучні ходзяць з палкамі дзеля рэкрэацыі і добрага здароўя. У мінулым некалькі ліцэістаў занялі добрыя месцы. Сёння прымаюць удзел у спаборніцтвах вучні розных класаў. Яны рашыліся ісці на дыстанцыі пяці кіламетраў. Ідзе таксама настаўніца фізкультуры Ірэна Грыгарук. Я таксама хадзіла ў мінулых гадах. Сёння ў мяне іншыя задачы — раздаць і сабраць палкі, апекавацца вучнямі перад выхадам і пасля вяртання з трасы, — сказала настаўніца фізкультуры ў Гайнаўскім белліцэі Бажэна Шакала-Ефімюк.

— Бегаць не ўсе могуць з-за хвароб пазваночніка або суставаў. Хадзьба з палкамі важная для захавання добрага здароўя. Гэты від спорту бяспечны людзям усіх узростаў, — сказаў адзін з пастаянных удзельнікаў спаборніцтва, вярнуўшыся з трасы.

— Сёння добра было ісці таму, што не было цёпла, як бывала ў мінулых гадах. Штораз больш модным становіцца хадзьба з палкамі сярод вучняў. Я хаджу дзеля рэкрэацыі. Сёння я спаткаў вучняў з нашай і іншых школ, — расказаў Барташ Яканюк з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, які чарговы раз быў удзельнікам гайнаўскага фіналу.



■ Малгажата Кубішын з Вулькі-Кравіцкай

Усе ўдзельнікі спаборніцтваў па скандынаўскай хадзьбе на мэце атрымалі памятныя адзнакі і маглі асвяжыцца ў белліцэі. Пераможцы ў паасобных катэгорыях атрымалі кубкі і ўзнагароды. Усе ўдзельнікі спаборніцтваў прынялі ўдзел у жараб'ёўцы. Шчаслівыя атрымалі ўзнагароды, якія прыдбалі Павятовае старасва, Гарадская ўправа і суполка «Руна» з Гайнаўкі. У час фіналу Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе былі розныя прапановы адпачынку для хадуноў, якія прыбылі з аддлеглых мясцовасцей. Перад імі займальна выступіў калектыў «Гасцінец» з Беларусі. Фанаты хадзьбы з палкамі маглі дакладней пазнаёміцца з прыгожасцю Белавежскай пушчы. Усе ўдзельнікі спаборніцтваў атрымалі бясплатны ўступ у Запаведнік зуброў, распалажаны непадалёк ад Белавежы, маглі таксама пракатацца вузкакалейкай па пушчы.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Маштабная падзея з «простай мовай»



■ Юры Беламызы і Альжбета Вяжбіцка-Пятроўская

У канферэнц-зале Управы горада Дуброва-Беластоцкая 10 кастрычніка прайшла прамоцыя кнігі „Простая мова жыхароў гміны Дамброва-Беластоцкая”. Кніга змяшчае інтэрв’ю, апавяданні і ўспаміны найстарэйшых жыхароў Сакольшчыны. У сустрэчы прынялі ўдзел сакольскі староста Пятро Рэцька, радны Падляшскага сейміка Павел Внукоўскі, бургамістр Дубровы-Беластоцкай Артур Гайлевіч, духоўныя, вучні мясцовых школ і жыхары гміны. Дзякуючы аўтару кнігі Юрыю Беламызаму, прамоцыя стала маштабнай падзеяй, дзе гаварылася на простай мове і аб простай мове.

Думка пра кніжку нарадзілася ў час працы пры праекце «Дыялог пакаленняў». Праект з’яўляецца часткай праграмы, абвешчанай Нацыянальным цэнтрам культуры „Роднае — дадай у любімае», і накіраваны на захаванне народных звычаяў, элементаў дыялектнай і моўнай традыцыі Мазовіі і Падляшша. З 1954 г. кафедра мовазнаўства Польскай акадэміі навук праводзіць даследаванні на Мазурах, Варміі, Мазовіі і Падляшшы. Праект прадугледжвае актыўны ўдзел выкладчыкаў і вучняў, якія выконваюць ролю валанцёраў, дапамагаючы захаваць знікаючыя словы і звычаі. Да гэтага праекта далучыўся комплекс школ у Дуброве-Беластоцкай, якога тагачасным дырэктарам быў Юры Беламызы.

— Трэба было крыху пачакаць кніжкі, гэта праўда. Тым больш цешыць факт, што яна ўжо ёсць, — сказаў аўтар кніжкі Юры Беламызы. — Было шмат дыскусіі падчас паўставання кнігі. Напрыклад, навукоўцы хацелі запісаць выказванні герояў кнігі фанетычна, але мне залежала, каб гэтая кніжка была даступнай для людзей і таму зараз кожны можа без праблемы адкрыць і прачытаць выбраны расповед ці інтэрв’ю. Гэта мова апісвае пэўны адрэзак рэчаіснасці. Гэта была мая ідэя, каб гэты адрэзак рэчаіснасці злавіць, апісаць і пакінуць для тых, якія жывуць зараз і будуць жыць пасля нас.

— Я хачу падзякаваць усім за прысутнасць на прамоцыі кніжкі. Аднак гэта на самой справе прамоцыя героя кніжкі, а героем з’яўляецца простая мова, якой жыхары гэтай зямлі карыстаюцца штодзень, — сказала сааўтарка кніжкі Альжбета Вяжбіцка-Пятроўская з варшаўскага Інстытута польскай мовы. — Мы паспрабавалі адрэдагаваць гэтую кнігу так, каб яе героем былі не людзі, якія карысталіся простай мовай, але сама мова. Тое, што гэтая мова запісаная, што з’явіліся каментарыі ў кнізе, гэта не толькі форма захавання гісторыі мовы, гісторыі людзей, але таксама выразак сённяшняга дня.




На прамоцыі кніжкі прысутныя былі таксама вучні пачатковай школы і ліцэя, да якіх слова накіраваў старшыня Галоўнага праўлення Таварыства культуры мовы прафесар Юзэф Порайскі-Помста.

— Мы часам ставімся да мовы, як да паветра. Аддыхаем і нават не думаем, якое гэтае паветра? Ці чыстае? Ці свежае? Таксама з мовай — не звяртаем увагі як гаворым, бо гаворым. Калі ўзаемна сябе разумеем, то няма праблемы, — адзначыў прафесар. — На занятках польскай мовы мы самі даведаліся, што ёсць нейкія нормы. Мы іх прысвоілі з маленства. Мова, гэта тое, што нас аб’ядноўвае, што спалучае людзей, што прычыняецца да таго, што мы сябе разумеем, хочам з сабою быць і размаўляць на розныя тэмы. Мова — гэта таксама вартасць, якая спалучае большую супольнасць.

Прафесар Юзэф Порайскі-Помста падкрэсліваў, каб шанаваць родную зямлю, родныя карані і выкарыстоўваць родную мову, якая прыйшла ад дзядоў і прадзедаў.

— Вельмі важным з’яўляюцца суадносіны між пакаленнямі. Нас перасялілі пасля вайны. Я не пазнаёміўся са сваімі дзядамі, я пра іх чуў, але ніколі не сустрэў, — сказаў прафесар Юзэф Порайскі-Помста. — Таго мне не хапае да сёння. Дыялог пакаленняў тычыцца не толькі мовы, але таксама сямейных сувязей. Таго вам зайздрошчу. Мова, якой мы вучыліся ад нашых дзядоў, бабуль, гэта мова, якая нас найлепш праяўляе, якая найглыбей сядзіць у нас.

У прамоцыі кніжкі прысутнічаў таксама сакольскі староста Пятро Рэцька — адзін са спонсараў публікацыі. Староста падзякаваў аўтарам за выданне і павіншаваў патрэбнай ідэі папулярызацыі простай мовы. Сакольскі староста падкрэсліваў адначасова, што пашана да роднай мовы зараз з’яўляецца патрыятычным абавязкам.

— Патрыятызм — гэта клопат за радзіму, але таксама любоў да сваёй малой бацькаўшчыны. Сёння нам не трэба паміраць за Польшчу, але нам трэба памятаць аб моўнай і культурнай спадчыне, бо простая мова таксама можа нам памагчы зразумець нашу мінуўшчыну, гісторыю, — адзначыў сакольскі староста Пятро Рэцька. — Дзякуючы гісторыі мовы, мы сабе ўсведамляем нашу гісторыю, усведамляем сабе, якія нашы карані і як мы ўзрасталі. Калі нехта клапоціцца нашай мовай, ён паказвае любоў да малой бацькаўшчыны. Тая кніжка паказвае любоў да малой бацькаўшчыны — Сакольскага павета, гміны Дуброва. Дзякую за гэта, што вы беражыце ад забыцця нашу спадчыну, культуру таго, што самае важнае — мову нашых дзядоў. Спадар Беламызы гэта прадстаўнік нашага стараства, таму тым больш мяне цешыць, што ён заняўся публікацыяй. Гэтай мовай, мовай простай карысталася ўся Сакольшчына. Гэта наш вызначальнік, наша адметнасць.

Як падкрэсліваюць аўтары, кніжка можа стаць інспірацыяй для навуковых даследаванняў, аднак «Простая мова жыхароў гміны Дамброва-Беластоцкая» накіравана перш за ўсё да саміх жыхароў гміны.

— Чытачы могуць параўнаць з успамінамі сваіх блізкіх і зразумець, што простая мова не толькі выступае ў іх хаце ці вёсцы, але гэта нешта супольнае для ўсяго рэгіёна, — тлумачыла сааўтарка кніжкі Альжбета Вяжбіцка-Пятроўская.— Калі бабуля гаварыла па-просту, а дзіця, ходзячы ў польскую школу, лічыла, што бабуля гаворыць дрэнна, то зараз можа паглядзець, што гэта мела і мае вартасць. Таксама з кніжкі можна даведацца аб звычаях людзей на гэтай тэрыторыі. Чытач зразумее, што з’яўляецца часткай большай супольнасці, не толькі культурнай, але перш за ўсё моўнай.

На жаль, кніжку не можна было набыць у час яе прамоцыі. Асобнікі трапілі ў бібліятэку, гарадскую ўправу і школы, а таксама нашу рэдакцыю. Аўтары абяцалі, што неўзабаве кніжка будзе дадрукавана, на што лічаць жыхары гміны, якія з лёгкім расчараваннем пакідалі канферэнц-залу гарадской управы. Паколькі мэтавай групай чытачоў былі носьбіты мовы, варта было б, каб сапраўды выданне трапіла і ў іх рукі.

(працяг будзе)

❖Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Памежны пераход у Міхалоўскай гміне?

Радныя звяртаюцца да прэм’ер-міністра Рэчы Паспалітай. Гаворка ідзе пра стварэнне памежнага перахода ў Ялоўцы, якім маглі б карыстацца перш за ўсё жыхары Міхалоўскай гміны і беларускай Свіслачы. Для многіх жыхароў такі пагранпераход мае таксама сямейнае значэнне — як і ў многіх пагранічных вёсках і мястэчках Падляшша, таксама і тут, пасля вайны, многія сем’і былі аддзелены нованамечанай мяжой. Такі пераход аб’яднаў бы блізкіх і далёкіх членаў памежных сем’яў.

Радныя Міхалоўскай гміны заклікаюць прыняць меры па стварэнні пешаходнага пагранперахода ў Ялоўцы, прагаласаваўшы прапанову па гэтым пытанні на сесіі рады 25 верасня 2019 года. У бліжэйшы час зварот будзе накіраваны прэм’ер-міністру Польскай Рэчы Паспалітай Матэвушу Маравецкаму, Міністэрству ўнутраных спраў і адміністрацыі, а таксама дэпутатам, згуртаваным у Парламенцкай групе па Беларусі.

Раней мэр Міхалова Марк Назарка сустракаўся з Уладзімірам Сяргеевічам Анішчыкам, старшынёй Раённага выканаўчага камітэта ў Свіслачы.

— Як жыхарам Свіслачы, так і Міхалоўскай гміны залежыць на гэтым пераходзе. Гэта важна з-за індывідуальных турыстаў, якія хацелі б свабодна перасякаць мяжу, не чакаючы ў доўгіх аўтамабільных чэргах, — падкрэсліваў Марк Назарка. — Гэта таксама шанц палепшыць якасць жыцця жыхароў Міхалоўскай і суседніх гмін. Новы пераход мяжы — усё ж такі істотнае спрашчэнне ў падтрыманні сямейных сувязей. Родныя людзі жывуць па абодва бакі мяжы, наведваюць магілы сваякоў як у Польшчы, так і ў Беларусі.

Прапанова адкрыць пагранпераход у Ялоўцы была прынята на сесіі Рады гміны пераважнай большасцю галасоў. Радныя пагадзіліся, што такое рашэнне істотна паўплывае на развіццё гміны як у эканамічным, так і ў турыстычным плане.

Па словах радных, такі пераходны шлях значна павялічыў бы турыстычную прывабнасць рэгіёна і паспрыяў бы развіццю новых форм прыгранічнага турызму. Гэта таксама прывяло б да развіцця турызму і памежнага гандлю на аснове прыродных каштоўнасцей раёна і сацыяльнага патэнцыялу жыхароў.

**(лук)**

## Нагода з прыгодай...

На фейсбуку прачытаў я абвестку, што ідзе падрыхтоўка да рэалізацыі фільма аб Зэнку Мартынюку. Нікому з Падляшша, ды не толькі, не трэба рэкамендаваць групы «Акцэнт» і яе лідара — вясковага хлопца з Градалёў Зэнка Мартынюка, якога зараз называюць каралём дыска-пола. У пяцідзясятых гадах, калі я даязджаў у Бельскі сельскагаспадарчы тэхнікум, дык быў добра знаёмы з Зэнкавым бацькам Сярожкай Мартынюком. Працаваў ён дзяжурным на станцыі ў Рыгораўцах. Сімпатычны кавалер маніў дзяўчат. Нікому ў гэты час не мільганула ў галаве думка, што Сярожкаў сын стане каралём музыкі дыска-пола. Аднак факт застаецца фактам. Зараз ідзе падрыхтоўка да музычнага фільма. Кінавытворцы шукаюць статыстаў. Здымкі рабіліся ўжо ў Нарве, Кляшчэлях, затым 18 кастрычніка будуць рабіць у Чаромсе. Такім чынам трапляецца нагода з прыгодай выступіць у фільме. Ахвотныя выступіць у ролі статыста павінны даслаць заяву па электроннай пошце на адрас: Edyta.Charkiewicz@stars-impresariat.pl са сваімі персанальнымі данымі: імя і прозвішча, узрост (колькі год), мясцовасць, нумар тэлефона і свой здымак. За зроблены здымак на пляцоўцы кінавытворца зразу плачвае статысту сто злотых. Дык варта паспрабаваць шчасця. Затым спяшайцеся, каб 18 кастрычніка ў чаромхаўскім антуражы сустрэцца з музыкай дыска-пола ды самым яе каралём Зэнкам Мартынюком.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Каб усё ўмеў — не хадзіў бы ў школу!

— А чаму восенню птушкі адлятаюць у вырай? — спытаў настаўнік.

— Бо тады пачынаецца школьны навучальны год, — загрымеў клас.

На вясёлай беларускай ноце пачалося свята ў праваслаўнай школе ў Беластоку. 14 кастрычніка — Дзень настаўніка. І адначасова Пакровы, калі ў Беларусі адзначаюць Свята маці, а на Падляшшы — царкоўнае свята. У школе свсв. Кірылы і Мяфодзія наладзілі яшчэ дадаткова прысяганне для першакласнікаў. Таму з раніцы панаваў тут узнёслы настрой.






Беларуская сцэнка «Урок» — гэта замалёўка з жыцця сучаснага школьніка. Дзеці сядзяць за школьнай партай. Яны ведаюць як патлумачыць настаўніку свае недахопы і правіны. Калі настаўнік пытае: а чаму ты зрабіў столькі памылак у хатняй задачы? — вучань мае гатовы адказ. Ён паясняе што памылкі зрабілі яго бацькі, а ён толькі крышачку ім дапамагаў рашаць сваю хатнюю задачу. Іншы вучань, каб патлумачыцца са спазнення на ўрок, прыдумвае гісторыю пра злодзея-тэрарыста, які запыніў яго на вуліцы і ўкраў сшытак з хатняй задачай.

Настаўнік дацаняе фантазію і інтэлігентнасць вучняў. Пасля добрага апраўдання ён прымыкае вока на недахопы і сам часам смяецца разам з класам. Сцэнка ад пачатку да канца наклікала хмару радаснага смеху і добрых эмоцый. У ролі вучняў выступілі цудоўныя пяцікласнікі і шасцікласнікі, а за настаўніцкім сталом прысеў самавіты Міколка Абрамюк.

Сцэнка «Урок» — добрая навіна для школы. З верасня тэатральныя заняткі вядзе тут спадарыня Ніна Абрамюк. Сцэнка «Урок» — гэта яе дэбют у праваслаўнай школе.

— Тут вельмі добрая атмасфера, — кажа спадарыня Ніна. — Дзеці з цікавасцю вывучаюць ролі, ангажуюцца.

Кожны ўдзельнік свята пабачыў і зразумеў, якая цесная і прыгожая сувязь між вучнямі і настаўнікамі. З нагоды свайго свята шмат настаўнікаў атрымала граматы і грашовыя ўзнагароды. Ды ў час, калі дырэктар Марцін Абійскі чытаў прозвішчы ўзнагароджаных настаўнікаў, дзеці праяўлялі шалёны энтузіязм, радасць і любоў. Уся зала запрамянілася радасцю, усмешкамі і бравамі.

Нам прыемна адзначыць што сярод узнагароджаных былі ўсе настаўніцы беларускай мовы: Іаанна Марко, Юліта Сушч-Лаўранюкі Людміла Сегень. Наша рэдакцыя таксама далучаецца да святочных пажаданняў. Зычым вам сілы, пачуцця гумару і задавальнення з працы. Дзякуючы вам жыве наша родная мова!

Хадзіць у школу — гэта шанц на развіццё і здзяйсненне мараў. Не дарма адзін з герояў «Урока» школьныя адрачэнні і зброўку падводзіць такімі словамі: «Каб усё ўмеў — не хадзіў бы ў школу!» А так трэба, няма іншага выбару.

**Зорка**

**фота: Бэата Жукоўская**

## УВАГА КОНКУРС!

Разгадайце загадку-пытанне з жартам, адказ можа быць розны, аднак дасціпны і на тэму. Рашэнне дашліце ў „Зорку" да 3 лістапада 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## № 42-19

**Як стаіць, дык вышэй каня, як ляжа, ды ніжэй вераб'я.**

**Д...**

## Загадкі з роднай хаткі

**(Падказка: з дапамогай гэтай прылады беларусы запрагаюць каня ў воз). Адказ на загадку № 38: школьная лаўка, парта. Узнагароду, наклейкі, выйграла Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Гарадок: гісторыя жыцця ў прыладах

Гэты ўрок запамятаюць у Гарадку надоўга. Настаўніца Анна Гжэсь запрасіла нас у беларускую хатку. Макет будынка бачаць усе, бо ён стаіць на калідоры. Аднак, каб заглянуць у яго сярэдзіну, трэба добра-добра заслужыцца. У гарадоцкай хатцы столькі скарбаў, што вачэй не адвесці. Калі мы толькі пераступілі парог, дзяўчаты кінуліся да калаўротка, сурвэтак і вышыванак. Мы прыгадалі, як мастак Лявон Тарасэвіч скарыстаў гарадоцкія макаткі для мастацкага афармлення афішы на свята «Сяброўская бяседа». І яны разам з плакатам паплылі ў свет...

У хатцы-музеі шмат прыгожых рэчаў. І практычных, такіх, якія сведчаць пра вынаходлівасць нашых продкаў. Мы засяродзіліся на прыладах для сцірання адзення і пасцелі, якія былі не толькі простыя ў карыстанні, але і не шкодзілі асяроддзю. Усякія пранікі, капанькі, начоўкі — гэта ўжо забытыя назвы.

Яшчэ большы выклік чакаў хлапцоў, калі яны разгадвалі прылады для запрагання каня. Іх аднагодкі нейкія пяцьдзясят гадоў назад самі ўжо ведалі як запрэгчы і кіраваць канём. Такія назвы як хамут, дуга, аглоблі, узды для сучасны дзяцей — чорная магія. І адначасова прызнанне для вынаходлівасці людзей. То ж трэба спрыт, розум і ўмеласць, каб зрабіць іх з дрэва або жалеза і так карыстацца, каб не стаміцца занадта. Хлопцы яшчэ захапіліся экспанатамі з часоў вайны 1939-1945 гадоў. Калі яны з недаверам дакраналіся да вінтовак і асколкаў па бомбах, нас наведалі сябры з восьмага класа. Разам з імі быў Аляксандр Карпюк, які прыдумаў ідэю хаткі. Усе вучні лічаць яго гаспадаром, таму і ўсе пытанні скіравалі ў бок настаўніка гісторыі. А ён, каб не губляць час, прапанаваў прымераць сукману — мужыцкі шынель вагой за 20 кілаграмаў. Такі канкрэтны дотык матэрыі яшчэ больш разбудзіў цікавасць і прызнанне для рэчаў нашых продкаў.




Гэты незвычайны ўрок мы завяршылі адгаданкамі з «Зоркі», які мігам рашыла Амелька Валасэвіч.

— А якія ў вас задачы і выклікі ў гэтым годзе? — спыталі мы.

— Спачатку рыхтуем беларускую праграму на ёлку, а пасля выступленні на Дзень бабулі і дзядулі, — кажа настаўніца Анна Гжэсь. — І хочам прыняць удзел у дэкламатарскім конкурсе. Напэўна будзе шмат выклікаў, якія прынясе жыццё.

Паколькі ў Гарадку ўрокі беларускай мовы маюць творчы характар, мы прапануем нашым сябрам стварыць гульню са старых слоў знойдзеных у хатцы-музеі. Як падабаецца вам наша падказка? Шкада трымаць чароўныя прылады адны, пад ключом. Яны чакаюць вас.

**(гак)**

**Фота: Ганны Кандрацюк**

## (БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ЛЕГЕНДА)

# Вырай, ён не для ўсіх птушак!

Кожны, ці то малы, ці стары глядзіць з настальгіяй на птушак, што адлятаюць у вырай.

І думае: «А дзе ж той вырай!» Гэтае адвечнае пытанне не дае спакою. У беларусаў ёсць прыгожая легенда пра восеньскі адлёт птушак. Паслухайце, калі ласка, як разумелі «вырай» нашы простыя сяляне.

Вырай, — меркавалі яны, — ён дзесьці вельмі далёка на зямлі, за гарамі, за лясамі, за марамі...

Да той пары, калі народ яшчэ не саграшыў, усе пражывалі ў раі. Пасля, калі людзі парушылі законы, Бог выгнаў іх з раю. І каб рай не пуставаў, ён аддаў яго птушкам. Бо ж вядома, самая прыгожая пустэча, без жытла, робіцца сумнай. З той менавіта пары сталі злятацца з усёй зямлі птушкі на зімку ў вырай.

Падумаеце, адкуль яны ведалі дарогу?

Вось, каб ніхто не блудзіў, Бог зрабіў ясную дарогу на небе, што проста вядзе ў вырай. Па гэтай дарозе кожны год ляцяць мільёны птушак. Але не ўсе туды далятаюць. У вырай патрапяць адно тыя птушкі, якія не зрабілі шкоды іншым. Бог дзеліць птушак так як нас, людзей, на добрых і дрэнных. Як ліхія людзі ніколі не трапяць у рай, так ліхія птушкі сланяюцца па зямлі, дзяўбуць братоў ды самі пагана гінуць. Ніхто іх не шкадуе, не ўспамінае.

А добрыя птушкі нацешацца за лета ў гаі, пацешаць людзей, нажывуць дзетак. А як пачне халадзець, яны вяртаюцца ў вырай. І там пяюць на радасць анёлам і добрым людзям.

Вялікі грэх забіваць птушак, якія ляцяць у вырай.

*(Легенда запісана этнографам Сержпутоўскім у XIX стагоддзі на Случынне)*

**(гак)**

*Іван Гарбун*

### Адлёт шпакоў

Згушчаюцца ў небе аблокі.
Абшары мяняюць аблічча,
А восень у вырай далёкі
Шпакоў і збірае, і кліча.
Збіраюцца птушкі, павольна,
Іх круг развітальны за кругам
Ізноў узнікае над полем,
Над рунню,
Над выцвілым лугам.
За мора яны адлятаюць,
У сумную далеч-дарогу...
І доўга ад роднага краю
Шпакі
Адарвацца не могуць.

## Польска-беларуская крыжаванка № 42-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 38-2019:**

Сок, вуліца, велікан, ліра, вытокі, ар, не, Дон, рэ, жырафа, маг. Як, вежа, шум, рэ, Лі, ода, Цэліна, сані, парта, кабарэ.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага і **Лена Сідарчук** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Mat | | | | Twarz | | Ikona | Jan | | |
| | Gen / Ranek | Trasa | | Widelec / Nitka | | | | | |
| | Obrzęd | | | | | | Ił / Pas | | |
| | | Syrop | | | | | | Nil / Rota | Okop |
| Brat | | | | | Nora | | | | |
| | | Jar / Ach | Klasyk | | | | | | |
| Dudek | | | | | | Sto | | | |
| | | | | Ostap | | | | | |

Шаноўныя чытачы «Нівы». Цягам чарговых нумароў «Нівы» толькі ў нас, у гэтым месцы, будзем друкаваць фрагменты новага рамана *Віктара Сазонава – Генетычны алфавіт*. Па *Запісках кантрабандыста* і *Суседскіх былях*, якія на нашых старонках карысталіся вялікай папулярнасцю, пад ацэнку чытачоў аўтар аддае сваю новую кніжку, над якой працаваў цягам апошніх гадоў. Спадзяемся, што ў 2020 годзе стане яна чарговым выданнем нашай рэдакцыі. Такога Віктара Сазонава мы яшчэ не ведалі. Празаічная спеласць і паднятая тэматыка напэўна выкліча бурлівыя дыскусіі і разнастайныя ацэнкі. Менавіта такія падзеі спадарожнічаюць літаратуры высокіх палётаў. Затым чытаем і любуемся напісаным аўтарам. Віншуем таксама Віктара Сазонава з днём нараджэння, якому 18 кастрычніка споўнілася 56 гадоў. *Рэдакцыя.*

Частка 1

# Генетычны алфавіт



**Алена і Васіль**
**1. Анамальная спёка Вашынгтона**

У гэты нічым непрыкметны на першы погляд панядзелак на самым пачатку лета адна тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят дзявятага года ў горадзе Вашынгтоне (акруга Калумбія, ЗША) было спякотна і душна, як у галоўнага чорта на цэнтральнай кухні. Прынамсі, такое надвор'е безнадзейна завісла ў тым месцы горада, дзе знаходзіўся звышсакрэтны офіс такога ж звышсакрэтнага аддзела адной не менш сакрэтнай службы. А можа супрацоўнікам таго аддзела толькі так здавалася, бо яны ў гэты дзень хаатычна лёталі па ўсім офісе як угарэлыя, а рух фізічных цел, як вядома з усё той жа фізікі, наганяе тэмпературу.

— Галоўнае, каб мазгі не расплавіліся, — ці то жартавалі, ці то непакоіліся супрацоўнікі таго офіса з мноствам кабінетаў, самы вялікі з якіх належаў яго кіраўніку. — Бо па ўсім відаць: шэф задумаў вельмі вострую і надзвычай інтэлектуальную гульню супраць краіны Саветаў. Таму мазгі супрацоўнікаў мусяць мець тэмпературу роўна трыццаць шэсць і шэсць дзясятых, з дакладнасцю, як на аптэчных шалях, і ні на адну дзясятую градуса ні больш, ні менш.

Ну, а калі быць дакладным, як пясочны гадзіннік, то размова ідзе пра 09.06.1969 года, пік халоднай вайны, час жалезнай заслоны і жорсткага супрацьстаяння дзвюх звышдзяржаў — СССР і ЗША. Нумаролагі яшчэ доўга будуць разгадваць уплыў гэтай даты пераважна з шасцёрак і дзявятак на лёс усяго чалавецтва планеты Зямля, а метэаролагі ламаць галаву над тым, чаму звесткі пра надвор'е ў іх розняцца між сабой як конь ад трактара. Ці, дакладней, чаму тыя звесткі розняцца гэтак жа, як адна конская сіла ў рухавіку трактара ад адной конскай сілы ў самым кані.

Але акурат з надвор'ем ламаць галаву няма над чым. Проста па вельмі сакрэтнай праграме ўсё таго ж засакрэчанага аддзела некаторыя звесткі пра надвор'е былі зменены ўжо ў архіўным выглядзе. Гэта было абумоўлена вострай, як стрэлы каманчаў, патрэбай заблытаць заакіянскіх непрыяцеляў у адной вельмі далікатнай справе, пра якую пойдзе гаворка далей. Хоць насамрэч яны заблыталі ўсіх, каго можна, толькі не сапраўдных адрасатаў. Ну, так заўжды здараецца, як прыходзіцца блытаць іншых. Вельмі весела ідзе аж да таго моманту, пакуль не заблытаешся сам, як мужык у бабскай спадніцы.

І не важна ці ў рэчаіснасці, ці ва ўяўленні, але сонца паліла так, што бледнаскуры кіраўнік сакрэтнага аддзялення адной амерыканскай спецслужбы (назва яе не раскрываецца з прычыны ейнай звышсакрэтнасці) міжволі падумаў, што ён можа абсалютна натуральным чынам змяніць колер скуры на адваротны, проста пагуляўшы галышом па цэнтральнай плошчы амерыканскай сталіцы.

— Так я яшчэ больш змагу заблытаць савецкую разведку, — задумліва працадзіў ён праз зубы і сам не зразумеў, ці то пажартаваў, ці то сказаў сур'ёзна.

Толькі вось так ціха прабубніў сабе пад нос і крыва ўсміхнуўся. Ну, а пад рот кіраўнік звышсакрэтнага аддзела паднёс шырокую шклянку, у якой у промнях анамальна спякотнага сонца зіхацелі кавалачкі лёду. Светладубовы колер віскі „Джэк Дэніэлс" ні крапелькі не псаваў гэтай гарманічнай кампазіцыі, а наадварот, надаваў ёй нейкі дзелавіта амерыканскі стыль. Ці як мінімум проста амерыканскі. Гэта ж вам не нейкае звычайнае віскі. Гэта віскі з лёдам! Я ўжо не кажу пра „Джэка Дэніэлса"!!!

Кіраўнік звышсакрэтнага аддзела знешне быў нічым асабліва непрыкметны таўставаты мужчына сярэдняга росту. Выглядаў гадоў на трыццаць пяць — сорак, і хіба што столькі ж і працягнуў на гэтым свеце, і як мінімум трэцюю частку гэтага тэрміну ў сяброўстве з тым „Джэкам Дэнэілсам". Пра тое сведчылі не толькі з любоўю падабраныя шклянкі з выявай гэтай маркі, якія ўтульна размясціліся за шклом у невялічкім буфеце яго аб'ёмнага офіса з зачыненымі жалюзі на вокнах, але і выразныя мяшочкі пад светла-шэрымі вачамі. Позірк жа быў хоць крыху і стомлены, але разам з тым мэтны, як у гончага сабакі.

— Гэта мая работа іх заблытаць, — выбухнуў ён з выглядам выратавальніка свету. — І не толькі заблытаць, але і знішчыць, пакуль яны не знішчылі ўсё чалавецтва!

З таго факта, што, не зважаючы на спёку гэтага дня, кіраўнік аддзела як звычайна залез у старамодны гарнітур з тоўстай баваўнянай тканіны было зразумела, што ён не любіць мяняць свае звычкі нават у дэталях. А светла-блакітная кашуля, расшпіленая да паловы, якая зусім не гарманізавала ў тон з рудым колерам густой расліннасці на грудзях, сведчыла яшчэ і пра тое, што шэфу абсалютна напляваць, як яго ўспрымаюць і падначаленыя, і начальства. Ён лічыўся выключна з сабой. Ну і са спадаром Дэніэлсам, вядома ж. З Джэкам Дэніэлсам.

Гальштук таксама прысутнічаў у яго гардэробе, але не на шыі, а толькі на шырокай скуранай канапе, і па ўсім было бачна, што гаспадар ужо не аднойчы на ім паспеў падрамаць. Адзінае, што не выклікала пачуцця безгустоўнасці, дык гэта невялікая лысіна, якая збольшага спалучалася з растрапанымі светлымі валасамі вакол яе і добра ўпісвалася ў колер светладубовага працоўнага стала, аточанага з усіх бакоў і нават зверху вентылятарамі. Вентылятары выконвалі сваю працу з усіх сіл, нададзеных ім фірмай-вытворцам, але істотна паўплываць на тэмпературу ў офісе не маглі. Таму шэф сакрэтнага аддзела больш усё ж разлічваў на лёд у шклянцы, куды, не шкадуючы, падліваў віскі.

„Умець змяняць аблічча вельмі важна для разведчыка, — працягваў свае развагі ўладальнік шклянкі з лёдам, толькі цяпер у думках. — Гэта не менш важна, чым бездакорная версія для маёй жонкі пра тое, дзе я быў сёння ноччу, — тут ён усміхнуўся ўжо з прыемнасцю і пацягнуў з той шклянкі. Яшчэ з большай асалодай пацягнуў. — Але ёсць вялікая, і хутчэй за ўсё непераадольная праблема. Я не магу з голым азадкам хадзіць па сталіцы самай вялікай краіны свету! І справа не ў ворагах, якія выкарыстаюць тое ў сваёй антыамерыканскай істэрычнай прапагандзе. Справа ў тым, што я не нудыст!"

Кіраўнік спецслужбы насамрэч не быў ніякім нудыстам і не збіраўся ім стаць. Тут ён падумаў абсалютна праўдзіва, што рэдка здаралася, улічваючы яго прафесію. Думаць праўду — для разведчыка непраўданая раскоша. Яго ж думкі можа перахапіць каварны і спрактыкаваны ў падобных справах вораг.

— А ворагаў у мяне шмат, — падсумаваў ён свае ж развагі.

І яшчэ, папраўдзе гаворачы, ён недалюбліваў тых галазадых нудыстаў. А вось тут ён пабаяўся так падумаць з прычыны новай на той час і пакуль што незразумелай з'явы, якая пазней набыла маштабнасць і стала называцца паліткарэктнасцю. Але ён, бывалы і дасведчаны разведчык, які выконваў спецзаданні і ў Лацінскай Амерыцы, і ў Афрыцы, і на Блізкім Усходзе, і нават у В'етнаме, і шмат чаго ў жыцці пабачыў, пачуў, і добра прааналізаваў ужо зараз, задоўга да росквіту паліткарэктнасці прадбачыў моц гэтай ідэалагічнай змены ў мысленні многіх суайчыннікаў у аддаленай перспектыве. І хоць зараз інтэлектуалы спецслужб Амерыкі працавалі над тым, як увесці гэты новы тэрмін у такім выглядзе, каб ён парадзіраваў тэрміналогію марксісцка-ленінскіх краін, якія свята, як манахам пасціць, патрабавалі ад сваіх суайчыннікаў прытрымлівацца партыйнай лініі, дасведчаны разведчык ужо падазраваў, што падобныя эксперыменты могуць абярнуцца супраць іх стваральнікаў. І змогуць некалі выпаўзці на свет у тым выглядзе, як іх і задумалі, толькі з дакладнасцю наадварот. Таму ўжо цяпер прымаў усе меры, каб тая новая ідэалагічная з'ява не магла нашкодзіць яго кар'еры ў будучым.

— Паліткарэктнасць, талерантнасць, цярпімасць, — прамармытаў ён. — Ай, колькі яшчэ ўсяго прыдумаюць.

Словы „талерантнасць" і „цярпімасць" таксама ўжо былі запісаны ў яго працоўны нататнік, асэнсоўваліся і патрабавалі новага погляду на рэчаіснасць. Але, крыху павагаўшыся, разведчык вырашыў не пароць неабдуманай гарачкі і яшчэ на нейкі час застацца белым, як яго бацька, вядомы сваёй ірландскай задзірлівасцю фермер з Мантаны, і дзед па мацярынскай лініі, невядомы эмігрант з нейкай Сувальшчыны. Гэта так дзед некалі казаў любімаму ўнучку, што з Сувальшчыны. Таму будучы кіраўнік сакрэтнага аддзела звышсакрэтнай службы доўгі час лічыў Сувальшчыну краінай. Ну, але гэта ў мінулым. Зараз то ён ведаў, што краіна гэта Польшча. Не дурны ж.

Эх, дзед! Ён казаў, што з Сувальшчыны ў Амерыку прывёз тры важныя рэчы. Дзве з іх — гэта польская мова і сувальская самагонка. І тое, і другое ён ужываў часта, і таму ўнук засвоіў іх комплексна. З цягам часу і з узростам унук перавагу ўсё ж аддаў „Джэку Дэніэлсу", але па-ранейшаму шанаваў і дзедаву спадчыну. А трэцяй рэччу, прывезенай у Амерыку, была бабуля Джэка, якую дзед і ў Сувальшчыну прывалок з зямель больш усходніх, і ўсё жыццё цягнуў з сабой усё на захад ды на захад, пакуль не ўбачыў з палубы нейкага разбітага карыта амерыканскую статую Свабоды. Яна нечым нагадвала яму бабку ў маладосці, а паколькі дзед у той час быў яшчэ ў росквіце сіл і лічыў, што дзве прыгожыя жанчыны — гэта лепш, чым адна, вырашыў застацца тут назаўсёды.

Так і атрымалася. Дзед шанаваў і свабоду, і бабку, хоць апошнюю лічыў не без граху. Нават два грахі ён у ёй угледзеў. Першы, што яна была ад нараджэння праваслаўнай, а не як ён, каталіцкага веравызнання, ну, а другі, што так і не змагла перайсці са свайго беларускага дзекання і джэкання на правільнае польскае пшэканне. І гэта яму, нібыта, перашкаджала навучыць любімага ўнука гаварыць правільна. Ды ўнук быў таленавіты з маленства. Навучыўся неяк.

Вось і пра змену колеру скуры той унук, а цяпер ужо сталы мужчына, разведчык, кіраўнік сакрэтнага аддзела, зараз прыняў разумнае і ўзважанае рашэнне. Хоць спецслужбовец ясна прадбачыў, што ўжо неўзабаве ўсё жыццё быць белым будзе лічыцца не зусім паліткарэктным, але ў тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят дзявятым годзе гэта яшчэ можна было сабе дазволіць.

— Не, гэта будзе лішняе, — задэклараваў ён уголас сваё рашэнне не хадзіць галяком па сталіцы. Моцна так, гучна і цвёрда, як прысягу прэзідэнту, задэклараваў. — Народ Амерыкі пакуль што гэтага ад мяне не патрабуе, — дадаў гэтак жа гучна, ажно віскі ў шклянцы пусціла кругі, як возера Мічыган ад падзення з неба метэарыта. Яны перыядычна падаюць, тыя метэарыты, калі хто не ведае. Можа, які і ў Мічыган зваліўся некалі. Зрэшты, гэта не істотна.

Калі быць шчырым да канца, то на гэтае рашэнне таксама паўплываў, апроч іншага, і самы банальны страх, што гэты эксперымент з гулянием з голым задам у цэнтры Вашынгтона, улічваючы настолькі анамальную спёку, мог па-за жаданнем разведчыка ператварыцца ў непажаданую маскіроўку пад невялічкую кучку попелу. Бо ажно ўсе вентылятары яго офіса, што працавалі напоўніцу, як праклятыя, не маглі істотна паўплываць на тэмпературныя змены нават у пакоі ў трыццаць пяць квадратных метраў. А там, за сценамі гэтага кабінета, наўрад ці што магло дапамагчы агрэсіі нябеснага свяціла супраць зямнога свяціла сакрэтнай разведкі. Не! На гэта асцярожны спецслужбовец з занадта белай для такіх эксперыментаў скурай пайсці не мог. Тым больш, што ў яго светлай галаве выспяваў геніяльны план па ўкараненні ў варожае савецкае грамадства свайго незвычайнага разведчыка. Разведчыка новага кшталту!

Ну так. Такіх шпіёнаў яшчэ свет не бачыў! Гэта зусім новая тэхналогія, так званы ноу-хау. Чым-чым, а гэтым планам бывалы ветэран амерыканскай разведкі рызыкаваць не мог, як разумны конь залатой падковай. Трэба было як мага хутчэй прычыніць максімальныя страты непрыяцелю на яго тэрыторыі, як саранча кукурузе, і такім чынам спаралізаваць яго волю яшчэ да прыходу той паліткарэктнасці на сваёй радзіме. Бо бывалы разведчык пакуль што не ведаў, з чым той прыход можна параўнаць па ўзроўні бедства: з нашэсцем ваяўнічых зялёных іншапланецян, ці з перамогай чырвонага камунізму на ўсёй планеце. А можа, ён і перабольшвае маштабы таго бедства, можа, аніякага бедства і не здарыцца?! Але перастрахавацца варта.

„Спачатку страляй, а пасля пытайся, як кажуць у Мантане", — падумаў ён і ўпэўнена рушыў да працоўнага стала.

— Ну што ж, старэча Джэк, — сказаў начальнік спецслужбы сам сабе. — Нарэшце табе падвярнулася магчымасць зрабіць вялікую і пры гэтым адносна этычную работу. Яна праславіць цябе на вякі! Я і толькі я ўратую свет і ад камунізму, і, магчыма, ад паліткарэктнасці. Ну, з гэтай трэба яшчэ разабрацца. Можа, тая паліткарэктнасць не мае такой небяспекі, як камунізм? Можа, аніякай не мае?! А можа, мае і большую! Хто яе ведае?! Жыццё пакажа, як у Беларусі кажуць. Эх, Беларусь, Беларусь... Новы кірунак маёй дзейнасці... Ну, што ж, адужаю і яго.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пасля дрэнажу змянілася жыццё

**Размова з пенсіянерам Мікалаем СУЛІМАМ з Крывятыч Арлянскай гміны, народжаным у 1953 годзе.**



**— Ці Вы запамяталі сваіх дзядоў?**

— Дзядоў не памятаю, ужо не жылі і ніхто мне ніколі пра іх не расказваў. Бабуля па маёй маме Веры памерла, калі маме быў год ці два, у Шчытах, прозвішча Сахарэвіч. Тады дзед ажаніўся другі раз; нарадзілася яшчэ двое дзяцей.

**— Ці Вашы бацькі былі ў бежанстве? Як успаміналі той перыяд?**

— У бежанства мама Вера, 1907 года нараджэння, выязджала са Шчытоў з мачахай, бацькам і братам. Адзін мамін брат загінуў у час Другой сусветнай вайны, а другога, які быў солтысам, забіў баец у Шчытах.

Бацька Авакум, 1904 года нараджэння, выязджаў з Крывятыч з бацькамі, двума братамі і сястрой.

Выязджаць у бежанства агітавалі. Страшылі, пераважна жанчын, што немцы будуць здзекавацца. А гэта была няпраўда. Тым, што тут засталіся, то хлеба не бракавала — немец быў гаспадаром.

Калі нашых сямейнікаў завезлі ў Ташкент, Ашхабад, пачалі паміраць. Тады пагрузілі ў параход і Волгай у Самару завезлі, то там ужо было можна жыць.

Бацька ў бежанстве навучыўся вырабляць шкуры. Расказваў, што калі на Руздво нашы хлопцы зрабілі гвязду і пайшлі калядаваць, то тыя кацапы яшчэ такога чагось не бачылі. І давалі столькі булак і пірагоў, што мяхамі насілі ў хату.

Перажылі там бяду і рэвалюцыю. Ішлі, палілі, душылі. Нельга было нічога сказаць. Расказвала мама, што там, недзе недалёка іх, устаюць рана, а там цэлая сям'я зарэзаная. Прыйшлі людзі, бо пачулі, што там дзіця за печкай плача. Калі яго вынялі, то спыталі, хто яго туды схаваў. А ён: „Тата хрышчоны”. І толькі тады тую банду злавілі.

Успамінаў бацька, што калі заходзілі бальшавікі, крычалі: „Это кулацкае”, і палілі шпіхеры, хаты, білі шыбы, распорвалі падушкі. А што вінаватая падушка? Прыцісне мароз, то ляжаць і дрыжаць.

**— Як, паводле расказаў Вашага бацькі, жылося ім пасля вяртання з бежанства?**

— Калі вярнуліся ў Крывятычы ў 1921 годзе — бацька, яго двох братоў і сястра, то што тут было, то людзі з суседняй вёскі пакралі. На панадворках расла ўжо бярэзіна, а будынкі былі са ўсяго абшабраваныя. Частка будынкаў была спалена, але наша хата стаяла. Павыкопвалі нават яблыні. Павырэзвалі стаўбы ў стадолах, забралі машыны. Бацька даведаўся пра сваю сячкарню, то пайшоў і забраў з суседняй вёскі. Не хацелі аддаваць зрабаваных рэчаў, то і з таго пайшла такая нянавісць паміж вёскамі.

І пачалі адбудоўвацца, шукаць працы. Бацька і іншыя вяскоўцы хадзілі ў Гайнаўку на „Хімічную” да работы; жылі там у зямлянках.

Які быў тады хлеб? Сушылі дзікія грушкі, дадавалі віку, крыху мукі і пяклі такі хлеб. Расказваў бацька, што як зойдуць у Гайнаўку і наш дзядзька выме той хлеб і есць, то католікі з Гайнаўкі глядзелі і гаварылі: „Sk...syn, bolszewicki chleb je!” І калі нашы вяскоўцы вярталіся на нядзелю дадому, то тыя зямлянкі выварочвалі — так насміхаліся. Бяды тады перажылі ўдосталь.

Пасля нейкага часу прызвалі бацьку ў польскае войска. Быў у Седльцах, у Кракаве. Захавалася фатаграфія таго перыяду. Меў званне старшага радавога, ужо абучаў салдат. Расказваў, што падафіцэрамі ў войску былі пераважна жыды. Раз запрасілі бацьку ў гасціну і як далі спірту, бацька лыкнуў то і ўпаў, бо ніколі не піў.

**— А як, паводле расказаў бацькі, было ў час Другой сусветнай вайны?**

— Казалі, што пры немцах у Крывятычах было спакайней, чым пры саветах. Як прыйшлі саветы, то тут шукалі, што дзе схаванае было, паролі штыкамі, кралі коней і прадавалі за гарэлку. А немцы хадзілі і правяралі запас збожжа, лічылі колькі дома сямейнікаў і не забіралі „пад мятлу” (дачыста). Немец палічыў, колькі сям'і трэба, а колькі можна прадаць.

А як рускія прыйшлі, то нашы людзі таксама ўмелі прыхаваць. Рускія не ведалі, што такое сечка. То як у нашых быў авёс, то ў сечку хавалі, а той прыйдзе, гляне і „зерна нет”.

Бацька — быў солтысам — накідаў акурат гной, а прыйшоў Лейкін (загадваў арлянскай кафлярняй, якую забралі жыдам Вайштынам, саслаўшы іх у Сібір — М. М.) і: „Выкідай на панадворак і вязі зерне”. І мусіў выкінуць і завезці тыя мяшкі ў Орлю.

Пры саветах ад нас не вывозілі ў Сібір, але сваё тварылі.

**— У Крывятычах у пасляваенных гадах заснавалі калгас...**

— Быў калгас, а пасля развaліўся; пазней, у 1970-х гадах заснавалі зноў. Проста сваволілі: прымушалі ісці ў калгас, забіралі зямлю нават вакол дома. А гаспадарылі так, што калі пасеялі, то вырастаў сам асот.

Мой бацька быў солтысам. І прыехаў нейкі „госць” з Беластока; відаць, быў добра настаўлены супраць тых парадкаў. І як нашых склікалі ў хату і так ім даў, што яны плакалі выходзячы. Гаварыў: „Ty chcesz odebrać ostatni kawałek chleba czy ogórka, czy pomidora, żeby nie miał gdzie wyhodować? Toż widać, jak żeście gospodarowali!” І той калгас развaліўся.

У нас пасля вайны некаторыя казалі: „У калгасе сухі калок уваткні, то яблыня вырасце.” Такую прапаганду сеялі, што ў калгасе ўсё будзе, а тут нічога. У нас было вялікае змаганне, бо частка людзей не хацела. І яшчэ была супольнасць, то там дзерліся, каб падзяліць.

Людзі расказвалі, што як настала камуна, то ў Крывятычах прыходзіў адзін да другога і казаў: „Дай кажух, бо іду на варту — раўнапраўе”. Так было. Адзін прыйшоў і кажа:

— Дай плуг.

— Як дай? Гэта ж мой.

— Цяпер раўнапраўе, я таксама хачу араць.

І такія штукі адбываліся. І некаторыя людзі папросту баяліся: калі хочаш мець спакой, то сядзі... спакойна.

**— Школа?**

— Хадзіў паўтара года яшчэ ў вёску Мора, у старую школу. А ў палове другога класа перавялі нас у новы будынак (на мяжы між Крывятычамі і Морам — М. М.). Будынак узводзіла фірма, людзі таксама крыху дапамагалі. Гэта ў рамках акцыі „Тысячы школ на тысячагоддзе”. Памятаю, што калі капалі пад фундамент, то выкапалі астанкі салдата і перапахавалі на маранскія могілкі.

У школе фізкультурныя заняткі вяла настаўніца Таіса Кацэйкава, а пасля Падолец (сын рускага афіцэра); яго жонка была з Вулькі-Выганоўскай, а раней вучыў ён у Корніне.

Добрымі спартсменамі былі ў нас Коля Томчук 1948 года нараджэння, які добра кідаў кап'ём, ездзіў на замежныя спаборніцтвы. Добра кідаў Клін. Валодзя Баравік добра гуляў у мяч, а Міхал Мураўка бегаў.

Быў я першым рочнікам (1953), які мусіў канчаць восем класаў, бо старэйшыя канчалі сямігадовую падставоўку; я падставоўку закончыў у 1968 годзе.

**— Як у Вас склалася жыццё пасля падставоўкі?**

— Закончыў толькі пачатковую школу і нікуды далей, хаця прыязджалі настаўнікі з Орлі Яўген Ляўчук і Аляксей Карпюк і намаўлялі ісці ў двухгадовую школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Але як пойдзеш, калі бацькі пажылыя, а гаспадарка была. Сам вучыўся гаспадарыць. Тады не было ў нас спецыялізацыі; гадавалася, што папала: авечак, свіней, кароў...

**— Войска?**

— Не бралі як адзінага карміцеля сям'і, бацькі былі пажылыя, каля сямідзесяткі. Я нарадзіўся калі бацьку было 49, а маці 46 гадоў. На камісіі далі мне адразу пяць гадоў адтэрміноўкі.

■ Авакум Суліма (справа) у час вайсковай службы, Седльцы, Кракаў, каля 1924 года

Нас было пяцёра дзяцей, паміж намі была вялікая розніца ўзросту. Я быў наймалодшы і ад найстарэйшай сястры быў малодшы на 21 год, ад другой на 19, ад брата на 16 і адна сястра была 1950 года нараджэння.

**— Як жылося пры камуне?**

— Калі ў нас правялі дрэнаж у 1967-1968 гадах, то настала зусім іншае жыццё. Зямля была гніністая, непрапушчальная і ўсё вымакала. Калі пойдзеш веснаю араць, то адзін конь ідзе ў рosплузе, а другі ідзе па вадзе. Пасля дрэнажу збожжа так пачало сыпаць, што пачалі малаціць у полі, бо ў стадоле не змяшчалася. Зямля давала сапраўдны ўраджай. І не давалі ніякай хіміі; папырскаеш раз або і не. А ў меншых гаспадарках, як у нас, то ўсё сеялі канюшыну каб карміць кароў, коней. То там пырскаць нельга было. Палолі. Хіміі людзі быццам апасаліся.

**— Яшчэ сярпамі жалі?**

— Сярпамі. Я яшчэ сам жаў сярпом. Памятаю, як перад жнівом людзі абкошвалі равы каб сабраць нават зеляненшае збожжа, бо калі пойдзе трактар, то панішчыць.

Яшчэ выходзілі жаць жыта сярпом. І пасля бацька цэпам малаціў. Я таксама яшчэ з бацькам малаціў віку ці сырадэлю. Умею нават удваіх малаціць. Займала гэта шмат часу: трэба было змалаціць, абярнуць сноп, развязаць, вытрасці салому. А калі веялкі не было, то яшчэ *сопэлькай* веялі. І рабіць кулікі з саломы таксама трэба было ўмець.

**— Жыццё на вёсцы стала лягчэйшым...**

— Так. Адчулі такую свабоду, што з чагосьці можна жыць. Крэдыт на фертылізатары быў беспрацэнтны. Бярэш угнаенне і за год вяртаеш і ніводнага працэнта не плаціш; звaўся *skrypt dłużny*.

У той час таксама даступнейшы стаў цэмент. Людзі пачалі масава будаваць дамы і стадолы. І таксама ішлі талакою — адзін другому памагаў.

**— Ці Вы і іншыя людзі ў Крывятычах займаліся таксама выплятаннем саламяных каробак?**

— То ж займаўся. Шылі цэлымі сем'ямі. Бацька належаў да кааператыва ў Бельску. І вазіў туды здаваць; па вуліцы Траўгута была тая „Цэпэлія”. Аплачваў складчыны, але пенсіі з таго не атрымаў, бо яшчэ ў той час не было. Бацька пайшоў на пенсію ва ўзросце 74 гадоў; але якая тады была тая пенсія? Вельмі добра шыў каробкі. Так стараўся, што калі туды завозіў, то ніводнай не адкідалі.

**— А кажуць, што камуна прыгнятала.**

— Я так не скажу. Бо ўжо быў доступ. Там яшчэ тыя сакратары накідалі свае тэзісы, свой лад жыцця.

**— Ці Вы былі партыйным?**

— Два тыдні быў кандыдатам і адразу мне не спадабалася. Быў на першым сходзе, выбіралі старшыню. І пачалі калаціць адзін супраць другога. І ўжо мяне і брата страшаць, што ў партыю не ідзе. Нейкія былі абучэнні, але я нікуды не паехаў. Аж урэшце прыязджаюць да мяне Генак Ляўчук з Орлі, Юрак Лявоцюк і яшчэ адзін, які дапамог мне. Сказаў: „Калі не хоча, то навошта на яго нападаліся? Бацькоў гадуе...” І паехалі. А я тую пробную *легітымацыю* кінуў і ўсё.

**— Але партыйныя мелі прывілеі...**

чытайце ☞ 10

9 ☞ працяг

— А якія тыя прывілеі? То ўсё была мана. Арганізуюць нейкі *чын*, то адны не ідуць, а ты „младзежовец" — ідзі, партыйны — ідзі. То дома не было б калі рабіць.

**— Запамяталі, якія гэта былі чыны?**

— Калі начальнікам гміны быў Мікалай Кадлубоўскі, а мы, маладыя, хацелі зрабіць забаву, то ён жартам паставіў такі варунак: „Ці ў нядзелю прыедзеце ў Шарні капаць роў?" Але ён меў падыход да хлапцоў — зараз пасля працы прывёз абед. У сябе таксама працавалі — святліцу пабудавалі амаль *чынам*.

**— Ці ў Крывятычах была свая пажарная каманда?**

— Позна заснавалі і крыху пабыла. Не было каму пакіраваць. А з другога боку — той прадстаўнік, які прыязджаў з Бельска, вельмі важнічаў, што ён вялікі пажарнік, а мы — абы-хто.

Як паехалі на абучэнне ў Высокамазавецк, то пажарнікам-трактарыстам заплацілі і яшчэ падатак знялі, а мне нічога не далі. І два тыдні там праседзеў, а дома старыя бацькі. То я кінуў тую *страж*.

**— У Крывятычах у ПНР часта адбываліся танцавальныя забавы.**

— Забавы пачаліся, калі ў святліцы зрабілі клуб. І ў 1967 годзе праз два гады было тут войска Тэрытарыяльнай абароны. Кватаравалі яны ў аборы, дзе раней быў калгас. Салдаты праводзілі дрэнаж. Мелі гарманіста і прыходзілі сюды рабіць забавы. Войска пасля выйшла на Грабняк — калёнію за Шчытамі. То тады мы пачалі ладзіць забавы.

**— А як было з абавязковымі пастаўкамі?**

— Карова тады каштавала, для прыкладу, тры тысячы злотаў, то на план мусіў я завезці за 700 зл. Быў г.зв. план — колькі збожжа, колькі мяса мусіў здаць. Можна было даваць падмен, напрыклад, воўну. Людзям не хапала, то ездзілі купляць збожжа аж у Элк, каб здаць план, бо інакш то катастрофа.

Мая сястра штудзіравала ў Любліне фармацыю, то таксама патрабавалі дакументаў, што справіўся з падаткам і толькі тады магла яна атрымаць стыпендыю ці месца ў студэнцкім доме.

Былі тады і кантрактацыі. Часам не дакарміў вепрука ці быка, трэба было ісці і адтэрмінаваць тую кантрактацыйную дамову. Бо без дамовы не здасі. А на вольны рынак то было танней.

**— Ці калісь свінні хварэлі?**

— Хварэлі, і то моцна; былі г.зв. паморы. Рассцілалі салому перад панадворкам, маты мачылі. Але ніхто не гаварыў, што гэта ASF.

**— Вядома мне, што Вы гадавалі коней. Але хіба трактар таксама ў Вас быў, ці куплялі па размеркавальніку?**

— Рускі трактар купіў у 1988 годзе, яшчэ па надзеле. Калі пісаў прашэнне, то трактар тады каштаваў 600 тысяч злотаў, а як атрымаў, то трэба было заплаціць мільён і сто тысяч.

Коней я гадаваў цягам усяго жыцця. Бо гаспадарка невялікая, выгадуеш жарабя, трэба было бульбу абараць, сеўнікам пасеяць. Зімою ладзіў кулігі, вазіў санямі. А коней любіў і пасля трымаў і па дзевяць штук. У мяне ўсе коні былі прывучаны да запрэжкі. Я яшчэ людзям запрагаў. Запрагаў у воз вазіць гной і куды паехаць.

На пенсіі, яшчэ ў 2014 годзе, таксама гадаваў коней. Меў чатыры кабылы, жарабя. Трымаў у полі, але як сталі красці, то мусіў трымаць у хляве.

Тут, у Крывятычах, укралі ў Васілюка (кабылу і жарабя), у Кліна (кабылу) і ў Родзіка (дзве кабылы і жарабя), але адна кабыла вырвалася ім і злавілі каля Руткі. Судзіліся, але ніхто не атрымаў кампенсацыі. Зладзеі прыязджалі ад Белай-Падляшскай. Агулам зладзеі ўкралі каля дзевяноста штук коней.

**— А пенсія была ў Вас еўрасаюзная?**

— У той час ужо добра не плацілі. Трэба было на пункты ісці. Пайшоў на ранейшую, у 60 гадоў жыцця на 75% у 2013 годзе.

**— Якое, паводле Вас, было жыццё ў ПНР?**

— Не было кепска, не скажу. Быў дома, а калі хацеў яшчэ падзарабіць, то ішоў равы капаць ці пясок вазіць. Усюды можна было зарабіць.

**— На канец спытаю: ці заўважылі Вы, што зараз памяняліся самі людзі?**

— Калісь, калі ставілі дом, то прыходзіла дзесяць-дванаццаць чалавек выкапаць і заліць фундамент. І гэта толькі за тое, што паабедаюць і вып'юць. А сёння за грошы нікога не знойдзеш. Інакшы час настаў, як гавораць.

Як расказвалі, пасля вайны наша вёска была вялікая, было шмат хлопцаў і дзяўчат. Быў тут такі Мішка з драўлянаю нагою. І пад вечар усіх хлапцоў у строй і па вёсцы ішлі і ваенныя песні спявалі. І ён на той мыліцы ішоў спераду і ўсімі камандаваў.

Ты ведаеш, як у нас тут спявалі? Я яго добра памятаю; ён потым у Гайнаўку на работу даязджаў „Сімсанам". І там знайшоў жанчыну і дваіх сыноў меў. І быў без нагі, а што рабіў!

**— Дзякую за размову.**

Міхал МІНЦЭВІЧ




## http://npbelarus.info

Сёлета мінула пятнаццаць гадоў, як Польшча далучылася да Еўрасаюза. У той час уваход да гэтага міждзяржаўнага аб'яднання лічыўся вялікім крокам да стварэння агульнаеўрапейскага дома. Сёння такія ўяўленні значна зменшыліся, зважаючы на Брэкзіт, праблему блізкаўсходніх і афрыканскіх уцекачоў, розных падыходаў саюзнікаў да дзеянняў Расіі. Разам з тым, падаецца, што Еўрасаюз усё ж такі даказаў сваю трываласць і магчымасць адказваць на выклікі часу, хоць крытыкаваць чыноўнікаў у Бруселі ёсць за што. Хаця б за набраўшую моц у апошнія гады тэндэнцыю залагоджвання антыдэмакратычных лукашэнкаўскіх улад і ўсё большы адыход ад палітыкі падтрымкі дэмакратычных рухаў і ініцыятыў у беларускай краіне. А менавіта на дапамогу ў прасоўванні дэмакратычных парадкаў разлічвалі апошнія, калі віталі далучэнне Беларусі да Усходняга партнёрства — праекта Еўрапейскага Саюза, скіраванага на паглыбленне адносін з шасцю краінамі былога СССР (Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны). Пачатку рэалізацыі гэтага праекта сёлета споўнілася акурат дзесяць гадоў. Але пра дадзены, шчыра кажучы, напалову забыты праект, яшчэ помняць дэмакратычна арыентаваныя беларусы. Менавіта яны стварылі ў свой час Беларускую нацыянальную платформу Форуму грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства (БНП). Сайт дадзенай грамадскай ініцыятывы месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://npbelarus.info**.

Віртуальнае прадстаўніцтва БНП выглядае даволі блякла, калі глядзець на яго, зважаючы на сучасныя сайты грамадскіх арганізацый. Няма ніякай мультымедыйнасці — усюды тэксты з аздабленнем адным здымкам ці малюнкам. Таму чытаць размешчаную там інфармацыю будзе цікава хіба таму, каму залежыць на яе вывучэнні ці азнаямленні з ёй.

На сайце змешчаны рубрыкі, дзе распавядаецца непасрэдна пра БНП, Усходняе партнёрства, датычныя да ўсяго гэтага дакументы, навіны і кантакты. Праўда, апошніх там, па сутнасці, няма, а ёсць форма зваротнай электроннай сувязі і партрэты сяброў Каардынацыйнага камітэта БНП.

Паводле інфармацыі пра Беларускую нацыянальную платформу, якая была заснавана ў 2010 годзе, — гэта вядучая пляцоўка кааперацыі арганізацый грамадзянскай супольнасці Беларусі ў галіне ўзаемадзеяння з Еўрапейскім Саюзам і краінамі Усходняга партнёрства. „Дзейнасць БНП накіравана на каардынацыю намаганняў розных грамадскіх арганізацый і ініцыятыў для пашырэння інстытуцыйных магчымасцей арганізацый грамадзянскай супольнасці ўплываць на працэсы дэмакратызацыі краіны, беларуска-еўрапейскага супрацоўніцтва, парадак дня рэформ у Беларусі па набліжэнні да еўрапейскіх стандартаў ва ўсіх сферах жыцця грамадства", — адзначаецца ў падрубрыцы пра задачы і каштоўнасці платформы.

Як і дзесяць гадоў таму, грамадскія актывісты ў сваіх спадзяваннях на дэмакратызацыю Беларусі пры дапамозе Усходняга партнёрства лічаць, што яна ёсць моцным стымулам для развіцця супрацоўніцтва Беларусі з ЕС і краінамі рэгіёна, а таксама для еўрапеізацыі беларускай краіны і ўмацавання беларускай грамадзянскай супольнасці. Згодна з тым, што на сайце няма нейкай справаздачы ці хаця б расповедаў пра нейкія дасягненні ў гэтым кірунку, можна з сумам канстатаваць, што на дэмакратызацыю Беларусі Усходняе партнёрства паўплывала вельмі слаба.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара



100 гадоў з дня нараджэння

# Усевалада Караля

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, медык Усевалад Кароль нарадзіўся 18 кастрычніка 1919 г. у вёсцы Старое Сяло (Мінскі раён). Навучаўся ў беларускай гімназіі ў Радашковічах (1928-1929), Віленскай беларускай гімназіі (1929-1936), на медыцынскім факультэце ўніверсітэта Стэфана Баторыя. Быў актыўным грамадскім дзеячам: друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях, быў апошнім кіраўніком Беларускага студэнцкага саюза, ліквідаванага ў 1940 г.

У час нямецкай акупацыі Усевалад Кароль з жонкай Кацярынай прыехаў жыць у Баранавічы, дзе працаваў лекарам і выкладаў у медыцынскай школе. У гэты час Кароль удзельнічаў у нацыянальным падпольным руху, кіраваў Баранавіцкім камітэтам Беларускай незалежніцкай партыі (БНП). Кіраўніцтва партыі планавала скіраваць яго ў Лондан як паўнамоцнага прадстаўніка ад Беларусі. Узімку 1944 г. Караля, заманіўшы ашуканствам, арыштавалі, засудзілі і выслалі на 10 гадоў у савецкі канцлагер. Яго першаму сыну Юрку споўнілася тады тры месяцы. Жонка спаліла ўсе дакументы сямейнага архіва, звязаныя з дзейнасцю яе мужа да арышту. Каб працаваць далей акулістам у Баранавіцкім шпіталі, жонцы Кацярыне давялося развесціся з ім. Пасля вяртання Караля яны пабраліся шлюбам другі раз. Сын Ілья расказваў, як маці часта ездзіла на Поўнач да бацькі, пакідала яму ўсе грошы, што былі. Назад вярталася без білета і без капейкі ў кішэні.

Пасля вяртання ў 1955 г. з лагера ў Баранавічы Усевалад Кароль да апошніх дзён падтрымліваў адносіны са старымі сябрамі. У яго хаце часта збіраліся госці не толькі з Беларусі, але і з Польшчы, Літвы. Прыходзіў былы палітвязень Пятро Рашэтнік, прыязджалі з Моўчадзі настаўнік Семяняка і з Зэльвы Янка Геніюш, з якімі Кароль разам быў у высылцы. З Вільні наведваліся Лявон і Юрка Луцкевічы. Яны разам гралі ў брыдж, чыталі вершы і ўспаміналі мінулае.

У Баранавічах Кароль працаваў у радзільні, меў вялікі аўтарытэт. Па ўспамінах сучаснікаў цаніў калег і ніколі не прыніжаў чалавека. Не павышаў голасу, не дазваляў сабе папракнуць маладога спецыяліста пры некім. Дамы па вуліцы Вільчкоўскага, у якіх жылі лекар і практыкантка Таіса Шчогалева, потым нявестка, былі побач. Калі сярод ночы Караля выклікалі, ён стукам у шыбіну будзіў яе і прапаноўваў бегчы на працу разам. Часта ездзіў у радзільню на роварах. Яго называлі „бацькам Баранавічаў".

Лекара Караля ведалі за межамі Беларусі. Ён наведваў медыцынскія канферэнцыі ў Кіеве, Маскве, публікаваўся ў навуковых выданнях. Дзякуючы Усеваладу Каралю ўсе найноўшыя практыкі ў галіне акушэрства і гінекалогіі пачыналі ажыццяўляцца і ў Баранавічах. Усевалад Кароль быў спецыялістам-практыкам, класічным інтэлігентам еўрапейскага роўню. Апроч роднай беларускай мовы, на якой Кароль размаўляў з блізкімі па духу людзьмі і пісаў вершы, ён выдатна валодаў расейскай, нямецкай, літоўскай і польскай мовамі.

Лагернае мінулае замінала кар'ернаму росту Усевалада Караля. Ён быў намеснікам галоўнага доктара радзільні па медыцынскай частцы. Галоўныя дактары мяняліся, а ён так і заставаўся „другім чалавекам" установы (а фактычна першым). Усевалад Кароль памёр ад інфаркту 4 кастрычніка 1984 г. у Баранавічах. Развітацца з лекарам-легендаю прыйшло шмат людзей. Паколькі Усевалад Кароль быў рэпрэсаваны, мясцовыя ўлады не далі дазволу правесці ўсенароднае пахаванне. Сваякам ледзьве дазволілі пахаваць яго ў цэнтры Русіноўскіх могілак.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Зубры па полі ходзяць

Зубры на волі... Зараз ім раздолле. Выходзяць сабе з лесу і прагульваюцца па сенажацях, палях, дарогах і заходзяць нават на сялянскія панадворкі. Адным словам усюды. Вольнаму воля. Для іх няма забароны. А селяніна, каб мог сабе дроў загатовіць, леснікі ў лес не пускаюць. Нельга, кажуць, нельга ўзяць з пушчанскіх лясоў ні адной галінкі. Еўрасаюз забараніў.

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета зуброў сустрэнем, між іншым, у наваколлі Семяноўкі, Пасек, Забрадоў, Міклашэва, Лазовага, Плянты. На калёніі Новага Ляўкова зубр пахадзіў сабе па панадворку і каля стадолы, у якой якраз было пахучае сена. Тут днём не замкнулі брамку. А сядзіба тая пад самым лесам. Бывала, што на прасторных лугах над рачулкай Баброўкай пасвілася паўсотні зуброў. Нядаўна зубр смяртэльна пакалечыў жыхара вёскі Пасекі. Ну, таго звяра застрэлілі.

Зараз адзін зубр зачасціў у Міклашэва. Яго шмат разоў фатаграфавалі, калі ласаваўся сакавітай травой пры агародчах. А ён аднаму тамашняму жыхару з'еў свежа накапаную бульбу. Тая агародніна знаходзілася нічым ненакрытая ў тачцы.

У сярэдняй частцы вёскі Плянта, якая знаходзіцца каля чыгуначнага вакзала, зубры пакуль што не паказваюцца, — сказала мне тамашняя пастаянная жыхарка. Але тут з лесу выходзяць іншыя жывёлы — ласі і дзікія свінні з парасяткамі. Тут растуць вялікія дубы, але сёлета не было на іх жалудоў. А вось у мінулым годзе быў іх вялікі ўраджай. Сюды прылятаюць сойкі і драпежныя пустальгі з сям'і арліных. Тыя апошнія палююць на соек. Абараніцца нават ад адной пустальгі зможа толькі дружная чародка соек. Я аднойчы бачыў птушыны бой гэтых даволі вялікіх крылатых. Адзінокая сойка не мела б шанцаў. Мо таму сойкі трымаюцца чародкамі. **(яц)**




## Новая мастацкая выстаўка ў Нараўцы

18 кастрычніка гэтага года ў прыгожай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета будзе адкрыта мастацкая выстаўка пад загалоўкам „Мы былі, ёсць і будзем" Мірослава Здрайкоўскага. Вернісаж а гадзіне 17-й. На мерапрыемства запрашае Катажына Бяляўская, кіраўнічка нараўчанскай галерэі. (яц)

Спадчына

## Каравайная традыцыя

З караваем, пірагамі, мазуркамі, пончыкамі і розным печывам звязана мноства абрадаў і звычаяў на Беларусі. Вясельныя каравай, у прыватнасці, на захадзе Беларусі заўжды пяклі талакой, амаль усёй вёскай і не адзін дзень. Мясцовыя жанчыны-каравайніцы Навасёлкаўскага цэнтра культуры, што ў Слонімскім раёне, адрадзілі абрад выпечкі Паўлаўскіх караваяў.

Такія дзівосныя, прыгожыя каравай выпякаюць у вёсках Паўлаўскага сельсавета — Навікі, Прырэчча, Паўлава і Навасёлкі. Адсюль і назва праекта, які займеў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці нематэрыяльнай спадчыны чалавека. Зараз гэты праект падтрыманы і фінансуецца Еўрапейскім Саюзам у рамках рэалізацыі мясцовай ініцыятывы «Адраджэнне і папулярызацыя



нематэрыяльнай спадчыны Слонімскага раёна „Традыцыя выпечкі караваяў на Слонімшчыне. Каляндарна-абрадавая выпечка"» праекта «Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь» Праграмы развіцця ААН (ПРААН).

Жанчыны-каравайніцы займаюцца любімай справай у свой вольны час і перадаюць вопыт, майстэрства і самабытнасць маладым. І гэта неад'емная частка іх вясковага жыцця.

Мастацкая выразнасць, вытанчанасць, творчасць, майстэрства і шматвяковая традыцыя з элементамі нейкай сакральнасці прасочваліся ў тых караваях, пірагах, што былі прадстаўлены сёлета ў Дзень беларускага пісьменства ў Слоніме.

Тэкст і фота **Пятра ЖЭБРАКА**

## Адгаданка

1. возера ў Казахстане, 2. дзікая драпежная жывёліна, 3. шахматны шэраговы баец, 4. адмяжоўвае Польшчу ад Беларусі і Украіны, 5. варсісты ўзорысты выраб для ўсцілання падлогі, 6. навейшыя фасоны ўбораў, 7. буйная жвачная жывёліна пражываючая ў Афрыцы і Азіі, 8. набег рухомых ваенных сіл у тыл праціўніка ў... грэйдэры, 9. харвацкі горад між Сплітам і Задарам, 10. папугай з доўгім чубам і моцнай дзюбай.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | 2 | 3 | | | | |
| | | | | 4 | | | 5 | | |
| | | | | | | | 6 | | 7 |
| 8 | | | 9 | 10 | | | | | |
| | | | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Рой, сяўба, пяро, Лісабон, заяц, аўчар, ёд, сыр, тры, Украіна, генерал, абзац.

Рашэнне: **Спячай лісе заўсёды сняцца куры**.

## 20.10 — 26.10

**(22.03. — 20.04.)** Жыццё прынясе табе пікантныя гісторыі. З 24.10. (да 30.10.) не паддавайся эмоцыям у справах быць або не быць у тваёй фірме. З 23.10 могуць наваліцца на цябе праблемы ў кампаніі і ва ўстановах. Не падпісвай у гэты час важных дакументаў, асабліва звязаных са страхоўкамі. Са здароўем лепш чым у апошнія дзве дэкады.

**(21.04. — 21.05.)** 20-21.10. удадуцца ўсялякія экзамены. 20-22.10. без сутрасенняў у парах, можаце пачаць новы этап супольнага жыцця. Праводзь час з блізкімі. 23-27.10. хтосьці цябе поўнасцю зачаруе. Можаш добра ацаніць хітруна і злачынцу; будзь асцярожны! На працы будзь разважлівы і цярплівы. Шматлікім справам дасі крылы.

**(22.05. — 22.06.)** 20-21.10. заўважыш, што схочуць схаваць іншыя і здабудзеш поўнае бачанне сітуацыі. Наладжвай знаёмствы, хутчэй праз інтэрнэт, але калі ўбачыш, што тая асоба лішне дапытваецца пра цябе, можаш выключыцца. 20-21.10. бізнесовыя сустрэчы прынясуць карысныя шанцы. Твае фінансавыя патрэбы вырастуць, і незалежна ад някепскіх заробкаў з 24.10. (да 28.10.) у кашальку можа засвяціцца дно...

**(23.06. — 23.07.)** Самотныя могуць заўважыць, што каля іх ёсць хтосьці, хто зробіць для іх усё; ты таксама скажы, чаго хочаш паспрабаваць. 20-22.10. варта схадзіць у банк; можаш някепска заашчадзіць. З 24.10. (да 30.10.) можа напасці на цябе цяжка прастуда; прымай вітаміны ў натуральнай форме. Не гавары аб планах, а набярыся цярплівасці і хапайся за дзеянні. Можаш расстацца з чымсьці, паставіць штосьці пад пытанне рубам.

**(24.07. — 23.08.)** 20-24.10. будзеш прачулены на фальш у атачэнні, хутка рассакрэціш намеры іншых, лёгка ажыццявіш свае. Ідэальны час на падарожжы. Неспадзяванкі ў пастаяннай пары. Не сядзі склаўшы рукі. Памятай, што хоць часу ніхто не гоніць, ён увесь час уцякае! Падвучвайся.

**(24.08. — 23.09.)** З 24.10. знойдзеш спосаб, каб развязаць нейкую праблему, якая цябе мучыць здаўна. Можаш змяніць напрамак сваіх дзеянняў або выбраць зусім іншы шлях. У пачуццях — як у казцы! Паявіцца чорная авечка ў сям'і, вылезе шыла з мяшка. Некаторыя справы трэба будзе перанесці на іншы час. Штораз лепшы настрой. Задзівіш усіх спрытам і арганізаванасцю. Жыві актыўна.

**(24.09. — 23.10.)** Самотныя Шалі з 24.10. (да 30.10.) без цяжкасці заваююць кожнага! Хоць надвор'е асенняе, пачуцці як вясной! Можаш шмат зарабіць, выкарыстаўшы навінкі. Можаш узабрацца на вяршыню. Твая моц — цярплівасць, пастаяннасць, трываласць. У каханні — чаго будзеш патрабаваць, тое і дастанеш.

**(24.10. — 22.11.)** З 23.10. ты майстра ў заваёўванні сэрцаў, душ і целаў! Але 20-24.10. хтосьці блізкі можа цябе параніць. 20-21.10. удалыя негацыяцыі з шэфствам. Усё, што пачнеш рабіць, павінна кончыцца поспехам. Жыццядайная пазітыўная энергія паўплывае таксама на прафесійныя справы і тваіх блізкіх! Нюхай прыемныя для цябе пахі, паправяць табе настрой і здароўе.

**(23.11. — 22.12.)** 23-27.10. можаш наладзіць карысны кантракт. Але з 24.10. (да 30.10.) можаш выпадкова штосьці знішчыць ці папсаваць. З 24.10. (да 28.10.) паявіцца нейкая фінансавая нагода, якую ты не выкарыстаў у мінулым. Аматары цябе акружаюць з усіх бакоў!

**(23.12. — 20.01.)** Рамантычны клімат да сустрэч у пары. Можаш пачуць важнае для цябе слова або сам прызнаешся ў каханні. 23-27.10. хтось можа закрунуць табе ў галаве; пільнуйся, могуць цябе моцна параніць. 20-21.10. можа паявіцца цікавая прапанова. Падарожжа чакае цябе 20-22.10. — варта папрацаваць над сваім іміджам. 25.10. можа цябе турбаваць стрававальны шлях, варта падумаць над ачышчэннем, напрыклад, настойкай ці гарбатай з крапівы. Тое, што табе здаецца, што хтосьці мілы, не мусіць быць праўдай.

**(21.01. — 19.02.)** Тваім амбітны планам могуць пашкодзіць нейкія ранейшыя абавязацельствы ці памылкі з мінулага, якія вылезуць 26.10. Здабывай усё, што можна, бо ў апошняй дэкадзе месяца будзе больш замяшання. У пачуццёвых справах усё пойдзе згодна з тваёй думкай. На працы хуткі поспех, калі ты працуеш ці адзін, ці ў калектыве. З 24.10. (да 30.10.) штосьці будзе для цябе як халодны душ.

**(20.02. — 21.03.)** 20-24.10. шыкуюцца вельмі гарачыя любоўныя сустрэчы. 20-22.10. інвестуй. Кіруешся розумам, таму ўсё пойдзе ўдала. З 26.10. можа турбаваць цябе алергія. Лёс табе спрыяе; зайграй у латарэю, асабліва каля 23.10. Можаш купіць зямлю ці дом. Неблагі клімат для ўсялякіх пертрактацый.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Пахмелле пасля спеваў

Закон Мерфі вяшчае, што калі ёсць верагоднасць нейкага здарэння, то яно напэўна здарыцца. Возьмем, для прыкладу, адгалоскі публічных устаноў у „Ніву” — здараліся яны ў 1960-1970-х гадах, але ў апошніх гадах іх амаль не было. Але верагоднасць усё ж была, ну і такое збылося.

Гмінная ўправа ў Нараўцы адгукнулася на допіс Янкі Целушэцкага п.з. „Спевы над ракой Нараўкай”, дзе аўтар рушыў з франтальнай атакай на гмінныя ўлады: „Шкада, што на летнім фэсце зусім не паказаліся нашы гмінныя ўладары. Не паявіліся і не прывіталі гасцей ні войт, ні яго намеснік, ні сакратар гміны. Як добра памятаю, да гэтага года нічога такога ў Нараўчанскай гміне ніколі не было. Ну, проста для нас, тутэйшых жыхароў, сорамна. Але што ж новы войт і новыя наводзіць парадкі. Між іншым, пачаў пераносіць помнік, бо так захацеў. Я, радны, быў супраць. Прыкра мне, і не толькі мне, за паводзіны войта (я старшыня сельскагаспадарчай камісіі і гаспадарчага развіцця гміны Гміннай рады) і іншым радным, між іншым, Анатолю Раманчуку (ён старшыня Гміннай рады), Ірэне Максімюк (яна намеснік старшыні сельскагаспадарчай камісіі). На фэсце быў таксама і ведае пра адсутнасць войта радны Станіслаў Садоўскі. Як жа гэта так запрасіць людзей на культурна-забаўляльнае мерапрыемства і іх не прывітаць, не падзякаваць за прыбыццё? Што гэта цяпер парабілася з чыноўнікамі? Ужо сталі такія гордыя і пыхлівыя за дзевяць месяцаў пасля выбараў, між іншым, на пасаду войта. Супрацоўнікаў ён ужо сам выбірае...” і г.д.

27 верасня адбылася сесія нараўчанскай Гміннай рады, дзе ў парадку дня быў пункт датычны між іншым гэтага допісу Янкі Целушэцкага. На ранейшай сесіі нараўчанскай Гміннай рады ад 29 жніўня была прыгатавана прапанова пастановы Рады, у якой асуджаўся допіс Янкі Целушэцкага ў „Ніву”, апублікаваны 4 жніўня. Сам аўтар допісу быў прысутны на сесіі, але накрыўся хвастом. Не забраў ён голасу, не апраўдваў сваіх закідаў, адно толькі ў галасаваннях сябе „апраўдваў”. У сесіі ўдзельнічала 14 радных з агульнага ліку 15. За прапанаваным парадкам дня галасавала 13 радных, адзін стрымаўся ад голасу — быў гэта радны Янка Целушэцкі. За прыняццем пастановы Гміннай рады прагаласавала 11 радных, траіх было супраць, у іх ліку радны Янка Целушэцкі. Згадваны ў допісе старшыня Гміннай рады Анатоль Раманчук быў за асуджэнне допісу...

Янка Целушэцкі ў сваім гнеўным парыве заўважыў адсутнасць на фэсце войта, але не пацікавіўся прычынамі тае адсутнасці. Затое Янка Целушэцкі не заўважыў прысутнасці на спевах старшыні сельскагаспадарчай камісіі і гаспадарчага развіцця гміны Гміннай рады Янкі Целушэцкага, таму не мог пацікавіцца, чаму гэты высокі прадстаўнік гмінных улад не прывітаў гасцей у адсутнасць іншых чыноў. Вельмі вось цікава, хто, паводле Янкі Целушэцкага, павінен выбіраць супрацоўнікаў войта — у сваім допісе Янка Целушэцкі гэтага не рассакрэчвае. Адносна пераносу помніка ў памяць ахвяр гітлераўскай акупацыі вёсак Нараўчанскай гміны Янка Целушэцкі таксама не тлумачыць сваёй пазіцыі, чаму ён быў супраць. Таксама не тлумачыць, чаму войт „так захацеў”. Войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі патлумачыў мне, чаму помнік тут запрапанаваў перанесці ў парк за амфітэатрам. Раней помнік стаяў недалёка вуліцы і некаторыя мінакі трактавалі той помнік як прыдарожны кусцік, таму пажадана было яго перанесці ў больш дастойнае месца. І чыста рытарычнае пытанне: а якія ж парадкі меў наводзіць новы войт: старыя? На тое ж яго людзі і выбралі, каб наводзіў менавіта новыя парадкі.





■ Помнік у памяць ахвяр гітлераўскай акупацыі ў Нараўцы

Янка Целушэцкі пільна сочыць за парушынкамі ў чужых вачах і ў сваіх допісах гнеўна выносіць іх на асуджэнне. Вось у адным з апошніх допісаў грыміць ён на шыльду крамы, што нейкі час працавала ў былым будынку Гміннай управы; маўляў — уводзіць тая шыльда ў зман пакупнікоў. І менавіта войт павінен, паводле Янкі Целушэцкага, зняць тую шыльду; цікава, ці на сесіях Гміннай рады Янка Целушэцкі таксама патрабаваў ад войта зняць тую шыльду. Магчыма, што яна ўводзіць у зман тых, хто вароніцца толькі на шыльды на будынку, па якім і так відаць, што ніякай крамы там няма. Тое ж самае датычыць і шыльды на былой краме ў новаляўкоўскім Пацанове, якую наш руплівы аўтар браў раней на прыцэл. Шыльдаў у нас шмат, для прыкладу на многіх фортках вісяць асцярогі перад злымі сабакамі. Наш дапытлівец павінен тады зацікавіцца, ці сапраўды тыя сабакі такія злыя, ці яны ўвогуле за тымі фортачкамі ёсць і ці ўвогуле нейкая жывая душа за імі жыве. І павінен строга клеймаваць такія фортачкавыя шыльды, якія ўводзяць у зман.

Пішучы пра спевы над ракой Нараўкай Янка Целушэцкі не заікнуўся пра галоўную інтрыгу, якая там здарылася, а менавіта пра выступленне намесніка старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіля Сегеня, у якім прамоўца яшчэ больш фур'ёзна заатакаваў войта, маўляючы, што ўбівае нож у плечы беларускай культуры. Магчыма, што Янка Целушэцкі не пажадаў паставіць сябе ў меншай ролі, а камусь запісаць большыя поспехі. Бо ж Янка Целушэцкі вельмі дбае пра свой розгалас, заўсёды падкрэслівае, што ён радны, а да нядаўна што і солтыс.

„Нож у плечы” гэта сур'ёзная стылістычная фігура, гэта гамлетаўская бойня за быць або не быць. А пайшло за грошы, якіх Таварыства дамагаецца ад гміны за тыя „спевы над ракой Нараўкай”. Войт лічыць, што Таварыства хоча замнога. На маю заўвагу, што прыезд выступоўцаў каштуе, войт Яраслаў Галубоўскі адказаў, што над сцэнай вісеў вялікі банер, які інфармаваў, што мерапрыемства дафінансавала Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі... Супрацьлеглага пункту гледжання ў кіраўніцтва Таварыства я не высвятляў, паколькі Гмінная рада запатрабавала гэтага на старонках менавіта „Нівы”. Хацелася б, каб пасля ваяўнічага пахмелля была ў нашых чыноў ахвота да рэфлексіі. Калісь-калісь тыя ж пташкі, якія далі прозвішчы нашым тут галоўным спаборнікам, згодна сядзелі на градцы Ноевага каўчэга...

* * *

А цяпер слоў пару на іншую тэму, пры нагодзе. Янка Целушэцкі традыцыйна пісаў і піша пра ўхабіны ў маставых, найчасцей пра тыя, на якіх сам спатыкаецца; апошнім часам на ваяводскай дарозе № 687 між Юшкавым Грудом і Навасадамі. Гэта важная дарога, пралягае яна амаль поўнасцю па тэрыторыі Нараўчанскай гміны і вядзе ў напрамку сухога перагрузачнага порту ў Семяноўцы. Было ўжо блізка да грунтоўнага рамонту гэтай дарогі, былі аб'яўлены таргі. Але дарогабудаўнічыя фірмы аказаліся фірмамі дорагабудаўнічымі і ў інвестара не было дастаткова сродкаў на рамонт. І, да таго ж здаецца, Семяноўка саступіла галоўную сухапортную ролю ў ваяводстве Саколцы. Зараз вось нашумела ў нас справа трасы абмінаючай Беласток чыгуначнай веткі — з Саколкі менавіта ў глыб краіны. І дарога ў Нараўку ці Семяноўку такім чынам астанецца грунтоўна паламанай. І тут з дапамогай Нараўцы прыйшло гайнаўскае Павятовае старэства, якое рашыла зладзіць павятовую дарогу з Нараўкі ў Крывец, па якой можна будзе выгадней даехаць і ў Гайнаўку, і ў Беласток, да цяпер грунтоўна рамантаванай ваяводскай дарогі № 685, абмінаючы ўхабістую 687-рку. Пра гэта на згаданай сесіі нараўчанскай Гміннай рады паінфармаваў гайнаўскі стараста Андрэй Скепка.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## FRAGMENT UCHWAŁY NR X/67/19 RADY GMINY NAREWKA Z DNIA 27 WRZEŚNIA 2019 R.

Odnośnie treści artykułu, w przypadku Tygodnika „Niwa” na podstawie art. 31 a ustawy prawo prasowe z dn. 26 stycznia 1984 r. z późniejszymi zmianami oczekujemy niezwłocznego zamieszczenia sprostowania nieprawdziwych informacji, które dotyczą gminy Narewka oraz osobiście Wójta Gminy Jarosława Gołubowskiego. Zgodnie z prawem prasowym Rada Gminy Narewka wnosi o zamieszczenie treści sprostowania, jak poniżej, w niezmienionej formie, taką samą czcionką jak tekst wymienionego wyżej artykułu w Tygodniku „Niwa” oraz na portalu internetowym www.niva.bialystok.pl

Treść sprostowania:

„W artykule z dnia 4 sierpnia 2019 roku p.t. „Śpiewy nad rzeką Narewka” jego autor Jan Ciełuszecki zamieścił nieprawdziwe informacje.

— Nieprawdą jest, że jak pisze Jan Ciełuszecki: „na letnim festynie w ogóle nie pojawili się przedstawiciele naszych gminnych władz”, ponieważ, jak sam autor wspomina w artykule, na festyn przybyli członkowie Rady Gminy Narewka wraz z jej Przewodniczącym Anatolem Romańczukiem, a organ ten stanowi taką władzę.

— Nieprawdziwą jest informacja, że „nowy wójt wprowadza nowe porządki. Między innymi przeniósł pomnik, bo tak mu się zechciało”. Prawdą jest, że Wójt Gminy Narewka podjął decyzję o przeniesieniu pomnika o 70 metrów, w ramach tej samej działki, na podstawie Uchwały Rady Gminy Narewka z dnia 21 czerwca 2019 r. w sprawie wyrażenia zgody na przeniesienie pomnika, w głosowaniu jawnym przy 14 głosach „za” i 1 głosie „przeciw”. Podjęta uchwała oparta była na opiniach Instytutu Pamięci Narodowej w Warszawie oraz Białymstoku, Wojewódzkiego Konserwatora Zabytków, a co najistotniejsze, wizji lokalnej zorganizowanej dla radnych, podczas której dokładnie zapoznano się z propozycją nowego miejsca usytuowania pomnika.

— Nieprawdą jest, że „(wójt) Współpracowników dobiera sobie sam”. Jeśli chodzi o zatrudnianie pracowników w Gminie Narewka, wszystkie procedury rekrutacyjne prowadzone są z zachowaniem stosownych przepisów, a wymagające tego stanowiska, obsadzane są w wyniku jawnych konkursów.

— Nieprawdziwa jest także informacja, iż „wielu mieszkańców gminy Narewka narzeka w niektórych sprawach, na to co robi wójt”. Jest to niewiarygodna i niczym nie potwierdzona informacja wprowadzająca czytelników w błąd. Do Przewodniczącego Rady Gminy Narewka nie wpłynęły żadne skargi na działalność Wójta, nie wpłynęły one także do Komisji skarg, wniosków i petycji, co więcej autor tekstu Jan Ciełuszecki, jako Radny Gminy Narewka, także nigdy nie złożył żadnej interpelacji w tej sprawie, choć ma bezpośrednia możliwość to uczynić. Dodatkowo warto podkreślić, że Gmina Narewka posiada portal społecznościowy na Facebooku, na którym nie pojawiają się negatywne komentarze.”

ISSN 0546-1960 42